10

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №26. 5 ЛІПЕНЯ 1993 ГОДА.

СЁННЯ:



**3 ліпеня — Дзень вызвалення Беларусі**



■ стар. 10

# ВІТАЕМ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ!

*Лёс разлучыў сясцёр Дакальскіх больш як паўвека таму. Многае павінна было адбыцца на нашай Бацькаўшчыне, перш чым Галіна змагла прыехаць разам з сям'ёй з Амерыкі на Беларусь і сустрэцца тут з сястрой Бірутай.*

■ стар. 3

*На вернісажы ў Мастацкім музеі ў Мінску.*

Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

# ПАНЯДЗЕЛАК: ПАДЗЕІ, ІНФАРМАЦЫЯ, КАМЕНТАР

## ГАЛАСАВАННЕ — ТАЙНАЕ, МАТЫВЫ — ЯЎНЫЯ

**166 дэпутатаў выказалі недавер Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі. Ці захаваў парламент давер выбаршчыкаў?**

Павольнае, нібы соннае цячэнне чарговай сесіі Вярхоўнага Савета на мінулым тыдні скончылася ўрэшце сапраўдным выбухам палітычных страсцей. Адбылося тое, што даўно наспявала і што можна назваць спробай канстытуцыйнага перавароту. Назваць спробу «ціхай», аднак, нельга. Словы «парламенцкія баталіі» набылі гэтым разам амаль літаральны сэнс: быў момант, калі дайшло ледзь не да бойкі за мікрафон. Але ў цэлым, трэба прызнаць, усё адбывалася ў лепшых традыцыях Вярхоўнага Савета —шляхам націскання кнопак і працэдурных хітрыкаў. Паколькі не ўдалося ўключыць у парадак дня сесіі пытанне аб адстаўцы спікера парламента Станіслава Шушкевіча, была прынята прапанова правесці тайнае галасаванне аб даверы яму, што рэгламентам, дарэчы, не прадугледжана. Фармальна ніякіх прававых вынікаў гэтая своеасаблівая маральная экзекуцыя для Старшыні Вярхоўнага Савета не мае. Аднак для парламенцкай большасці важна было арганізаваць гэтае галасаванне зусім не дзеля свайго маральнага задавальнення. Праціўнікам Шушкевіча, думаецца, важна было прадэманстраваць сваю сілу і паставіць спікера «на месца», запалохаць яго. Але і гэта, урэшце, не галоўнае — справа не ў асобе спікера і яго маральных якасцях, пра якія вельмі многа і ахвотна гаварылі дэпутаты, прыпісваючы свайму кіраўніку і, дарэчы, калегу ледзь не дэманічныя якасці. І нават не ў тым, што Шушкевіч нібыта падмануў Вярхоўны Савет адносна падпісання дагавора аб калектыўнай бяспецы. (Хаця сітуацыя, калі кіраўнік дзяржавы сцвярджае, што міжнародны дакумент падпісаны, а кіраўнік дыпламатычнага ведамства гэтай дзяржавы сцвярджае адваротнае — проста абсурдная і нават непрыстойная.) Пад канец шматгадзінных дэбатаў пра ўзгадны дакумент, здаецца, думаць забылі, а тлумачэнняў Шушкевіча на гэты конт і слухаць не пажадалі. Прычына, відаць, у тым, што прыйшоў час расплочвацца за гады прамаруджвання, а то і проста бяздзеяння, бясконцага гаварэння з трыбун замест рэальнага заканадаўчага забеспячэння эканамічных і дзяржаўна-палітычных рэформ. У Расіі, пры ўсіх цяжкасцях і складанасцях, рэформы ідуць, яны прынялі ўжо незваротны характар. А нашы айчынныя чыноўнікі і дэпутаты-камуністы ўсё яшчэ палохаюць абывацеля жупелам рынку і капіталізацыі. Адказваць жа за свае хібы і бездапаможнасць не хочацца — куды прасцей стварыць «вобраз ворага», знайсці вінаватага ў эканамічных і ўсіх астатніх правалах палітыкі.

І што дзіўна — практыка і памылкі расійскіх калег-парламентарыяў, аказваецца, не навучылі нашых дэпутатаў элементарнаму: нельга наступаць на граблі. Спробы дыскрэдытаваць палітычнага апанента, расправіцца з ім толькі дадаюць папулярнасці таму, хто выбраны ахвярай, як гэта было з Ельцыным, іншымі палітыкамі. У палітыцы, як, між іншым, у любой справе, трэба ўмець бачыць хаця б на некалькі крокаў наперад. Ну, дапусцім, удалося б змясціць з пасады цяперашняга спікера. А што далей? Можна не сумнявацца, гэта была б пірава перамога, перамога «каліфаў на гадзіну».

Праўда, патэнцыяльных «каліфаў» ніколі не цікавіла, што будзе пасля іх і ці будзе давяраць такім палітыкам народ. Зрэшты, у барацьбе за ўладу і прывілеі інтарэсы народа ніколі ўсур'ёз пад увагу не браліся — як бы яго імем ні кляліся з высокіх трыбун.

У пятніцу на прэс-канферэнцыі ў Вярхоўным Савеце Станіслаў Шушкевіч заявіў, што, на яго думку, найгалоўнай задачай з'яўляецца прыняцце новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Падзеі апошніх дзён, аднак, яшчэ раз паказалі, што парламент у цяперашнім выглядзе прыняць яе не здольны. У гэтай сувязі Старшыня Вярхоўнага Савета выступіў з ініцыятывай склікання часовай канстытуцыйнай асамблеі, адзінай задачай якой будзе прыняцце дэмакратычнага Асноўнага Закона.

В.Т.

## ЛЕХ ВАЛЕНСА: «МІНСК БЛІЖЭЙ ДА ВАРШАВЫ, ЧЫМ ВАШЫНГТОН...»

Чорныя лімузіны ў суправаджэнні ганаровага экскорту матацыклістаў на вуліцах беларускай сталіцы даўно сталі звыклай з'явай: візіты кіраўнікоў розных дзяржаў на Беларусь адбываюцца досыць часта. У пераважнай большасці грамадзян рэспублікі, занятых штодзённымі клопатамі, сустрэчы «ў вярхах» выклікаюць апошнім часам не надта вялікую цікавасць.

Што ж датычыцца візіту на Беларусь прэзідэнта Польшчы Леха Валенсы, дык з фармальнага пункту погляду гэта быў усяго толькі пратакольны візіт у адказ на леташні прыезд у Польшчу Старшыні ВС Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча. Падчас цяперашняга знаходжання польскага прэзідэнта ў нашай краіне не было падпісана ніводнага пагаднення! (Яны і не планаваліся.) І ўсё ж назваць гэты візіт ардынарнай падзеяй нельга.

Справа не толькі ў тым, што ў геапалітычным і гістарычным плане наш заходні сусед не менш важны партнёр для нас, чым Расія, і што абедзве нашы дзяржавы крэўна зацікаўлены ў развіцці эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва.

Справа, думаецца, яшчэ і ў неардынарнай асобе прэзідэнта Польшчы — былога электрыка з Гданьскай суднаверфі, лідэра прафсаюза «Салідарнасць», лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру, бацькі васьмярых дзяцей. Гэтаму чалавеку прысвяціў адзін са сваіх фільмаў (у свой час забароненых) славуты Анджэй Вайда — «Чалавек з жалеза».

Дарэчы, своеасаблівы стыль паводзін Леха Валенсы, яго заўзяты характар і пачуццё гумару праявіліся і ў ходзе сумеснай прэс-канферэнцыі па выніках візіту ў Мінск. Прэзідэнт не быў залішне дыпламатычны ў адказах на пытанні журналістаў — не абмінаў ні самыя вострыя з іх, ні, будзем шчырымі, досыць прымітыўныя. Прэзідэнт ахвотна жартаваў, але за ірoніяй ці, часам, сарказмам праступала жорсткая палітычная логіка.





Парадаксальнай назваў Валенса сітуацыю, калі прадстаўнікі польскай меншасці на Беларусі для вырашэння ўсіх сваіх праблем звяртаюцца адразу да ...прэзідэнта Польшчы, а беларусы, што жывуць у Польшчы — да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі. Няўжо, задаўся прэзідэнт пытаннем, тутэйшыя палякі не адчуваюць сябе грамадзянамі незалежнай дзяржавы Беларусь, не ўдзельнічалі ў выбарах вышэйшых органаў улады сваёй краіны?

А вось выданне беларускіх падручнікаў у Польшчы і польскіх на Беларусі — справа карысная, і тут апошнім часам намеціўся прагрэс. Хоць ёсць свае праблемы, звязаныя з бюджэтам і рынкавай эканомікай.

Наогул жа, як заявіў прэзідэнт Валенса, межы паміж нашымі дзвюма краінамі павінны быць празрыстымі, павінны спалучаць, а не раз'ядноўваць нашы народы. Палітыкі ж павінны быць у сваіх дзеяннях рэалістамі, а не каскадзёрамі. Нельга паўтараць памылак мінулага. Адносіны паміж Польшчай і Беларуссю не скіраваны супраць каго б там ні было. Рэгіянальнае супрацоўніцтва для нас — цалкам лагічнае. Мінск бліжэй да Варшавы, чым Вашынгтон...

У паралель з гэтымі словамі Станіслаў Шушкевіч нагадаў, як яшчэ нядаўна для таго, каб трапіць у Кракаў, трэба было спачатку ехаць афармляць дакументы ў Маскву. На жаль, гаварыў ён, і зараз ёсць нямала прадстаўнікоў улады ў рэспубліцы, якія выступаюць за тое, каб захаваць пільны кантроль за грамадзянамі, супраць дэмакратычных змен у заканадаўстве.

Трэба заўважыць, што погляды і пазіцыі Леха Валенсы, якія шмат у чым выглядалі сугучнымі цяперашнім поглядам і пазіцыі Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, а ў нечым — сталі палітычным падмацаваннем для беларускага кіраўніка, далёка не ўсім прыйшліся даспадобы ў беларускім парламенце. Зразумела, ніхто з дэпутатаў прасталінейна гэтага не выказаў. Але той, хто глядзеў рэпартаж з сесіі Вярхоўнага Савета, на якой выступіў польскі прэзідэнт, не мог не заўважыць, якім дысанансам з яго словамі аб пачуцці тоеснасці нацыі і дэмакратыі як падмурку дзяржаўнасці прагучалі некаторыя выступленні ў «розным». Зноў усё той жа плач па Савецкай Беларусі, «сацыялістычных каштоўнасцях», зноў — пра «ахайванне мінулага»...

Дарэчы, падчас прэс-канферэнцыі, адказваючы на адно з пытанняў журналістаў, прэзідэнт Валенса даў, мабыць, адказ усім, хто адчувае настальгію па Савецкім Саюзе і хто бачыць у яго развале адзіную прычыну міжнацыянальных канфліктаў і той крыві, якая пралілася за апошнія гады і ліецца зараз у грамадзянскіх войнах. Ён прывёў у прыклад Курапаты, дзе высокі госць аддаў даніну павагі тысячам нявінных ахвяраў сталінізму. Такіх месцаў, заэначыў прэзідэнт, у краінах былога СССР вельмі шмат. І цяпер ужо нікому не трэба даводзіць, чаго каштавала людзям, чалавецтву камуністычная сістэма, на чым яна была збудавана. Але ці панеслі злачынцы адказ — хоць бы за тыя ж Курапаты? Пытанне рытарычнае. А можа, калі б сталінскія каты былі ў свой час прыцягнуты да пакарання — не было б і сённяшніх крывавых канфліктаў, справакаваных бездакзнымі палітыканамі? У злачынстваў перад чалавечнасцю няма і не можа быць тэрміну даўнасці...

Імя «электрыка, які пахаваў камунізм», першага паслязваеннага прэзідэнта Польшчы карыстаецца павагай і аўтарытэтам у свеце. Але ў тых, хто спадзяецца яшчэ адрадзіць камунізм, яно, зразумела, выклікае нянавісць. Ды як бы ні ставіцца да Леха Валенсы, яго выказванняў як палітыка і чалавека, візіт яго ў незалежную Рэспубліку Беларусь — яшчэ адно яскравае сведчанне, што камуністычная таталітарная эпоха незваротна адышла ў мінулае.

Віталь ТАРАС.



**26 чэрвеня** адбылося ўрачыстае святкаванне 200-годдзя Мінскай праваслаўнай епархіі. З гэтай нагоды ў Мінску адбыліся набажэнствы і асвячэнне памятнага знака на месцы старадаўняй царквы XI стагоддзя. Набажэнствы прайшлі таксама ў Заслаўі, Слуцку, іншых мясцінах.

*На здымку:* на ўрачыстасцях узяў удзел Патрыяршы Экзарх Беларусі мітрапаліт Філарэт.

Фота Аляксандра Талочкі, БЕЛІНФАРМ.

Сустрэча з бацькаўшчынай

# «МЫ ДОЎГА ЧАКАЛІ, ПАКУЛЬ СТАЛІН НЕ ПАМЁР...»

*Здавалася, нам, карэспандэнтам «Культуры», прасцей, чым іншым, было сустрэцца з гасцямі са Злучаных Штатаў Амерыкі, мастакамі Мікалаем Пашкевічам і Галінай Дакальскай: нумар гатэля ў тры пакойчыкі з кухняй і іншымі выгодамі, які належыць Мастацкаму музею, размешчаны дзверы ў дзверы з рэдакцыяй. Сапраўды, так і здарылася: шум, мітусня і вясёлая гамонка на лесвічнай пляцоўцы засведчылі, што нашых будучых суседзяў сустрэлі ў аэрапорце і што цяпер яны побач. Зразумела, мы не маглі не скарыстацца спрыяльнай сітуацыяй, не пабачыць і не адчуць таго першаснага безабароннага стану душы, непрыхаваных эмоцый людзей, якія праз пяцьдзесят з нечым гадоў вярнуліся на бацькаўшчыну, пакінуўшы яе калісьці палаючай і ўшчэнт разбуранай. Так скласіся абставіны...*

*Знаёмімся — прадставілі нас гасцям мастак Яўген Ціхановіч і пісьменнік Сяргей Грахоўскі — і вось яно, першае ўражанне. Эйфарыя непадробнай радасці, імпульсіўнасць у словах і жэстах і раптам фраза, якая прымусіла адчуць сябе нібы вінаватымі: «А вы не напішаце пра нас кепскае?..» Шчыра скажу, мне асабіста пасля гэтых слоў хацелася заплакаць: страх мінулага, жах уладарання сталіншчыны над лёсам кожнага, каму наканавана было жыць тут, застаўся з імі, маімі землякамі. Галоўнае, што страх міжволі атаесамляецца ў іх і з намі, сённяшнімі, хто імкнецца да канца ачысціць свае гены ад злачыннай дзікунскай спадчыны «соратников» і «вождей», а значыць, і ў думках не трымае зрабіць балюча, папікнуць, адназначна ацаніць. Дзякуй Богу, мы свядома пазбавілі сябе такіх «правоў». І няхай гэта гучыць, як апраўданне перад тымі, пра каго складаліся злосныя байкі, бо чыйсьці ўчынак не стасаваўся з мараллю дыктату: маўляў, трэба рабіць так, а не інакш... І, можа, мой такі ўступ да інтэрв'ю з сям'ёй Пашкевічаў выкліканы яшчэ адным эпізодам. Вядомы мастак, даведаўшыся, што я іду на прэс-канферэнцыю з нагоды адкрыцця выставы твораў гасцей у Дзяржаўным мастацкім музеі, кінуў: «А-а, гэта той паліцай?..»*

*А ў мяне на дыктафоне занатаваны словы Мікалая Аляксандравіча і Галіны Альфонсаўны: «Ездзілі глядзець Хатынь. Такая ідэя, як званы, — гэта сусветная ідэя. Рэдкая ідэя... Уражанне — неверагодна вострае. Уся прырода звязана з тым трагічным выпадкам... Бачыце, мастацтва — квінтэсенцыя ідэі. Мастацтва не ў тым, што вы расказваеце, а што вы адчуваеце. Гісторыя — гэта не ёсць скульптура, гэта не ёсць жывапіс. І як толькі ўваходзіць што-небудзь апавядальнае — гэта ўжо літаратура. Гэта іншая галіна мастацтва. А вось званы ў полі... Як прыемна, што стварылі мемарыял таленавітыя людзі!»*

*Ну, а як не паверыць сакраментальнаму: «Беларусь — гэта лепшае, што ў мяне ёсць на душы. Такога пейзажу, водару, цеплыні прыроды нідзе няма, нават у Літве, якая побач...» Гэта словы васьмідзесяцішасцігадовага Пашкевіча, якому лёс наканаваў жыць на іншым кантыненце.*

*Ён і Галіна Альфонсаўна ў час інтэрв'ю хваляваліся: у аднаго нешта не ладзілася з батарэйкамі слыхавога апарата, другая, чыста па-жаночы, хацела хораша выглядаць перад фотааб'ектывам. І мы іх разумелі, пачынаючы гаворку, бадай, зусім з неабавязковых пытанняў накшталт уражанняў у час прызямлення ў аэрапорце. Гэта было іх першае інтэрв'ю на бацькаўшчыне. І хто ведае, можа рыхтаваліся яны да яго ўсе гэтыя гады? Ва ўсякім разе так падалося, бо мы пытанняў амаль што і не задавалі. Балючая споведзь выплеснулася сама па сабе, прыадчыніла таямніцы лёсу...*



М. Пашкевіч. «Індзеец, які атакуе».

**Сп. Мікалай Пашкевіч:**

— Мы былі ў Пухавічах на дачы, калі пачалася вайна. На той час я ўжо скончыў Акадэмію мастацтваў у Ленінградзе, першым з мастакоў Беларусі быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцягу. Толькі на трэці дзень пасля бамбёжкі я, мастакі Алтуф'еў і Гусеў трапілі ў Мінск. Горада не было, толькі коміны стаялі. Я пайшоў на Даўгабродскую, але з цяжкасцю зразумеў, што гэтыя руіны і ёсць тая вуліца. Мы вырашылі прабірацца да сваіх... Заначавалі ў адной школе, а раніцай прачнуліся ад шуму нямецкіх матацыклаў. Зразумелі, што да сваіх не прабярэмся і вырашылі вяртацца. Праз тыдзень або два мяне ў Пухавічах арыштавалі паліцыянты. Галя ведала, што з паліцэйскай управы жывымі не выходзяць і што мяне чакае расстрэл. Калі б яны даведаліся, што я — ардэнаносец, яны мяне абавязкова б расстралялі, бо ардэнаносец — значыць, член партыі. Але я не быў партыйцам... Мяне выратавала жонка: Галя пайшла да нейкага пухавіцкага начальніка, які да вайны быў настаўнікам, расплакалася, сказала, што, маўляў, муж — мастак, напраміла Бог прасіла адпусціць. Той паклікаў паліцэйскага начальніка і мяне адпусцілі...

**Сп. Галіна Дакальская:**

— І тады мы канчаткова вырашылі: пойдзем у Літву. Там родзічы, знаёмыя... Калі мы туды дабраліся, высветлілася, што родзічы нашы далёкія ўсе яшчэ да вайны паўміралі, але людзі добрыя нас прытулілі.

**Спадар Пашкевіч:**

— Вельмі дапамаглі мясцовыя мастакі. Яны паважалі Галю, бо ўжо на той час яна была таленавітым партрэтыстам... Я ведаю, што ў Мінску ў мастацкіх колах мяне абвінавачвалі, маўляў, Пашкевіч генералаў нямецкіх маляваў. А я не тое каб генералаў, але ніводнага салдата не напісаў!.. Словам, дзякуючы людзям неяк жылі. Сябравалі са старымі рускімі эмігрантамі, старымі афіцэрамі, гэтыя сем'і нам дапамагалі. Набліжаўся канец вайны, і мы вырашылі вяртацца на Беларусь. Прыйшлі ў тое месца, адкуль на радзіму павінна была



Г. Дакальская. «Драма».

накіроўвацца група такіх жа бежанцаў, як і мы. Была і другая група людзей, якая вяртацца ў Саюз не збіралася. Нехта мне і сказаў, маўляў, дурнем будзеш, калі вернешся, бо дадуць табе дзесяць гадоў. А я яшчэ падумаў: дзесяць гадоў — гэта ж мала, я вінаваты ўдвая. У мяне ж ордэн! Урэшце, у чым я быў вінаваты? Я ж ні ў чым не вінаваты. Ні я, ні мая сям'я. Я ведаў, што калі вярнуся, мяне расстраляюць... Зноў мы вырашылі бегчы. Па Нёмане на лодцы дабіраліся. Апынуліся на адну ноч у Берліне... Дайсці да яго дапамагла нямецкая мова Галінай маці. На той час у нас на руках было ўжо двое дзяцей: маленькая Бірута і шасцімесячная наша дачушка Алійя...

**Спадарыня Дакальская:**

— Чаму з намі апынулася мая маленькая пляменніца? Гісторыя такая. Перад самым пачаткам вайны мая сястра, актрыса Купалаўскага тэатра, была на гастролях у Адэсе, а гадавалую Біруту пакінула з намі на дачы. А пабачыліся мая сястрычка са сваёй дачушкай амаль праз пяцьдзесят гадоў, у Амерыцы... Чаму мы так доўга не мелі кантактаў з ёй? Таму, што не хацелі зрабіць ёй кепска. І ў Амерыцы мы



<u>На здымку:</u> (злева направа) доктар Клэг з жонкай Аліёй, Сяргей Грахоўскі, Мікалай Пашкевіч і Галіна Дакальская (сядзіць).

страшэнна баяліся, што нас схопяць і вернуць назад. Мы амаль што хаваліся ў Нью-Ёрку, бо баяліся, што нас высачаць...

**Спадар Пашкевіч:**

— Аднойчы мы ўдзельнічалі ў міжнароднай выставе і нам вельмі цікава было даведацца, як пра яе гавораць людзі з СССР. Але ні ў кога нічога не распытвалі, а слухалі, стоячы ў натоўпе. Распытвалі іншыя, хто таксама эмігрыраваў у Амерыку, пыталіся — як там, на радзіме? У адказ мы пачулі: чаго вы, здраднікі, не едзеце дадому? Вось адседзеце свае дзесяць гадоў і будзеце нашымі грамадзянамі. А так вас усё роўна знойдуць, паўсюль знойдуць. Страшна...

**Спадарыня Дакальская:**

— Мы доўга чакалі, пакуль не памёр Сталін. Як толькі ён памёр, тады мы вырашылі шукаць сястру. Але нават і не здагадваліся, што яна ў Мінску. І ўсё ж праз Літву вырашылі шукаць, даслалі ўсе дадзеныя. Атрымалі адказ: Бірута, сястрычка мая, жывая і працуе ў Мінску, у тэатры... Тады мы адразу яе запрасілі, яна прыехала да нас. Гэта было ў 90-м годзе...

**Спадар Пашкевіч:**

— Тады ўжо ўсё памянялася, сястра не баялася прыехаць у Амерыку... А мы адтуль хваляваліся за вас. Беларусь атрымала незалежнасць. Як мы радаваліся! Але ніколі не думалі прыехаць сюды, тым больш з выставай. Думалі, мастакі нас не памятаюць, моладзь не зразумее... Але атрымалі ліст з запрашэннем ад доктара Дробава, які пісаў, што нас тут помняць.

**Спадарыня Дакальская:**

— Для нас гэта было сюрпрызам. Вядома, памалу пачалі рыхтавацца. Аднак са знаёмых, маіх аднакурснікаў засталіся толькі двое — Ціхановіч і Цвірко. Віталь Канстанцінавіч прыслаў мне свой альбом. Такія ў яго пейзажы! Я была ў захапленні, вучылася ў яго! Не дачакаўся сустрэчы... Як і мае сяброўкі па Віцебскім тэхнікуме...

**Спадар Пашкевіч:**

— А з майго пакалення засталіся толькі Азгур і Давідовіч. Мой сябра Ахрэмчык памёр. Спіс нам даў Яўген Ціхановіч: і таго ўжо няма, і таго...

**Спадарыня Дакальская:**

— А цяпер я хачу закончыць. І вы мяне ніхто не перапыняйце. Я — шчаслівы чалавек. Не прыміце гэта за няпраўду. Бо ў Беларусі я сустрэла Мікалая Аляксандравіча. Гэта ён — так, я не саромеюся пры вас плакаць, — усё сваё жыццё аддаў нашай сям'і. У Амерыцы па першым часе даводзілася яму нават посуд мыць. Але ён выцягнуў мяне з цяжкой працы, з фабрыкі, даў магчымасць, ахвяруючы сваёй творчасцю, быць мастачкай. Потым ужо студыю мне пабудаваў, сам пачаў працаваць... Я калісьці была ў горы, у бядзе на гэтай шматпакутнай зямлі, напаўгалодная вучылася, але тут я знайшла яго. Таму і шчаслівая...

*Вось і ўсё інтэрв'ю. А яшчэ быў вернісаж у Мастацкім музеі Беларусі. Успаміны пра Малевіча і Пэна, у якіх давялося вучыцца Мікалаю Аляксандравічу. Вялізныя букеты белых рамонкаў, ружы, васількі, віншаванні, абдымкі — усё, што гаворыць аб павазе і шчырым прызнанні іх таленту. Былі і словы іх дачкі Аліі: «Калі я была маленькай, дык заўсёды глядзела на матуліны пейзажы. І калі прыехала сюды, то ўбачыла на небе тыя ж самыя аблокі... Гэта самае вялікае маё ўражанне. І цяпер я ведаю, адкуль я родам. І ведаю, хто я ёсць...»*

*Алійя — таксама мастак, яна — старшы дызайнер па касцюмах і характарах кампаніі Уолта Дыснэя. І яе творы сёння можна бачыць побач з творамі бацькоў у зале Мастацкага музея ў Мінску.*

*У фондах гэтага музея, накручаная на барабан, захавалася работа Мікалая Пашкевіча, якую ён напісаў у трыццатыя гады. Сюжэт яе характэрны для тых часоў: Сталін і партызаны, якія змагаліся супраць белапалякаў. Гэтае вялізнае палатно Мікалай Аляксандравіч не прызнаў за сваё. (Сустрэча са сваёй карцінай адбылася ў Пашкевіча літаральна назаўтра пасля прыезду на Беларусь.) Не думаю, каб памяць падвяла мастака... Бо потым, у дзень вернісажу, паглядзеўшы на яе яшчэ раз, ён заўважыў: а што, не такая ўжо благая кампазіцыя, вось толькі каларыт чорны...*

*Мне яго ныя словы падаліся сімвалічнымі: так, ён доўга чакаў, пакуль не памёр Сталін. У ягонай душы...*

Людміла КРУШЫНСКАЯ.
Фота Генадзя Жынкова.

# ВОЧЫ Ў ВОЧЫ, СЭРЦА Ў СЭРЦА...

Праз некалькі дзён, дакладней 8 — 10 ліпеня, пройдзе I з'езд беларусаў свету. Для многіх нашых суайчыннікаў ён будзе сапраўдным адкрыццём новай Беларусі, таго духоўнага кантынента, Мацерыка (ад слова «маці»), якога яны пазбавіліся ў малалецтве, або пры такіх абставінах, калі і не думалася, што можа захавацца на планеце такое вось адзінае пяшчотнае гняздзечка, дзе і могуць узгадавацца згукі беларускасці, якія і твораць Асобу, Грамаду, Народ.

Нарэшце адбудзецца новае ўзбуйненне (яднанне) нашае нацы, калі да карэнных абшараў крывіцка-ліцьвіна-русіна-беларускае духоўнасці далучацца астатнія жыццядзейныя радовішчы-асяродкі.

Да гэтага часу так шчыльна закрываліся, заканапачваліся нават маленькія шчыліны да шматлікіх амерык, дзе жылі землякі, каб мы, не дай Бог, пабачылі-пачулі, што гэта за людзі-"бебурнацы"...

Ніякавата (калі не сорамна) чытаць сёння «справаздачныя» радкі тых, каго дапускалі ў свой час за бугор, за жалезную заслону ідэалагічнай непрыязні. Бо ажно ў крыві жыў страх. Жабрацкая сістэма баранілася як магла, каб толькі не ўзнікла параўнання, развагі, бо «у советских — собственная гордость»: гонар раба...

Ужо ўсім вядома: з'езд беларусаў свету адбудзецца. Але —у госці ці дадому едуць нашыя суайчыннікі? Напачатку яны проста не маглі наведаць Бацькаўшчыну, потым вагаліся-баяліся, і ўрэшце паявілася думка-перастрахоўка: а ці варта ім ехаць на Радзіму, бо адразу трапяць у адбмкі замаскаваных партыйных функцыянераў? Так, яшчэ не ўсе «чыстыя», не адмыліся ад гідлівага ўчарашняга бруду...

Чуў я і такое: «А навошта ім ехаць?» Так, мы тут справімся самі. Тым больш што нашыя суайчыннікі — не мільянеры, іх згуртаванні — нешматлікія. Але ж вакол Менска амаль дзесяцімільённая глыбіна народу — і ці так ужо ўпіралася яна перад імперска-інтэрнацыяналісцкай абкаткай? То можа хай глынуць глыток роднай сцюдзёнкі ўсмаглыя ад страшэннай хваробы — эміграцыі — землякі?

У адной з замоў-прысушак ёсць такія словы-заклінанні: «Вочы ў вочы, сэрца ў сэрца, мыслі ў мыслі!»

Сапраўды, толькі пры дасягненні такой узроўнасці-паралельнасці можа ўзнікнуць лагода, паразуменне, узаемазліццё-дыфузія нашых душаў...

Узаемаразуменне нашага адзінства, еднасці важней не так нам, як маленькім беларусам на ўсіх кантынентах планеты. Чым будзем большаць мы тут разам са сваім Менскам, будзе падрастаць эміграцыйная отмаладзь, а не вянуць і абсыпацца. Трэба прывесці ў рух жыватворны закон сазлучаных сасудаў «вялікіх сонцаў і сэрц малых» (радок Н.Арсеньневай). Няма рэцэптаў бяссмерця, але што з'езд можа стаць у сур'ёзным сэнсе брамай неўміручасці, на гэтае хочацца спадзявацца...

Доўга яшчэ будзе балючым і спасціроржлівым слова — эміграцыя. Яна заўсёды складаецца і з ахвотнікаў, і з выгнанцаў. Але ў мяне ніколі не выспее пачуццё зверхнасці перад людзьмі драматычнага наканавання. І калі б на Вялікім сходзе землякоў мне далі слова, прамовіў бы так:

*Не эмігранты: зноў вы — землякі,*
*суродзічы адрынутага лёсу.*
*Цяпер Калумбы вы... І на вякі*
*Айчынным словам хай не будзе зносу!*

*— Вочы ў вочы!*
*— Сэрца ў сэрца!*
*— Мыслі ў мыслі!*

Сяргей ПАНІЗЬНІК.

---

*Гэтае эсэ было напісана па дарозе з міжнароднага сходу беларусаў блізкага замежжа. Паміж той падзеяй і з'ездам беларусаў свету, які праходзіць зараз, прайшло ўжо даволі часу. Але шчырая споведзь аўтаркі, на нашу думку, адпавядае настрою сённяшняга дня.*

# СПОВЕДЗЬ САМОТНАЙ БЯГЛЯНКІ

Я пішу Вам гэты ліст з цягніка, які імчыць мяне на поўдзень: у іншае жыццё, іншую існасць, іншае вымярэнне. Не, я не знікну зусім. Проста... перапатваруся птушкай, каб кожную раніцу прылятаць да вашага вакна і распавядаць пра свой сум.

Калі я толькі прыехала ў чужы горад, цяжэй за ўсё было прывыкаць да вокнаў. Яны — як чужыя вочы. Свецяцца нейкім халодным, недасягальным святлом. Свецяць, але не абароняць і не сагрэюць.

На вуліцах горада хутка цямнее. І так цяжка знайсці дарогу да свайго жытла. Чужыя вочы не падкажуць, не паспачуваюць. Ім усё роўна, куды ты ідзеш і ці мусіш згубіцца сярод віхуры натоўпу, шалу ападаючага лісця, ветру, ночы.

*У далёкім сусвеце*
*засталіся рукі і вочы.*
*Мерна вежам старым*
*адбіваюць стагоддзі званы.*
*Тут па бруку сам час*
*белым прывідам крочыць.*
*Не чакаеш сяброў,*
*не шкадуеш уласнай маны...*

Еду на поўдзень.

Раўнамерна, абыякава грукаюць колы. Ім усё роўна, колькі яшчэ засталося да мяжы, да мяжы маёй Беларусі. Але дзе гэтая мяжа, і хто яе зможа вымераць?

Па ўсяму свету разляцеліся мае браты і сёстры. І калі яны помняць пра сваю радзіму, жывуць яе жыццём, гэта значыць, што мяжа праходзіць праз іх душы. Геаграфія тут не мае значэння. Мяжа можа быць і ў Амерыцы, і ў Канадзе, і нават на далёкім Паўночным полюсе. Калі нашы душы, як птушкі, ляцяць на радзіму, мяжа праходзіць праз нашае сэрца. Як жыць з гэтай мяжой? Калі сэрца не хоча дзяліць на сваё і чужое, на мінулае і будучае...

Некалі я вельмі любіла падарожнічаць, знаёміцца з новымі мясцінамі. Пры першай магчымасці хуценька збіралася ў дарогу і не вельмі спяшалася вяртацца дамоў. Я думала, што дом будзе заўсёды, як і бацькі, якія любяць і чакаюць. Я памятаю, як хацелася хутчэй вырвацца з роднага гнязда, каб адчуць моц маладых крылаў, прыгажосць палёту. І вось зараз — ёсць жаданая самастойнасць, але роднае гняздо ўжо не чакае.

Лёс закінуў мяне далёка ад любай радзімы — на Украіну. Але нідзе, нават у родным Полацку, я не адчувала сябе больш беларускай, чым тут, на чужыне, у духоўнай адзіноце. Ніколі раней не было такога вострага адчування прыналежнасці да свайго народа, гонару за зямлю, дзе нарадзілася. Я — родная дачка Беларусі. А маці любіць сваіх кволых і непуцёвых дзяцей яшчэ болей, чым моцных і здаровых. Радзіма мая, дай цярпення твайго, тваёй жыццяздольнасці, веры тваёй. Абарані мяне, тваю кволую дачку. Толькі тут, на чужыне, пачынаеш разумець дзіўную рэч: чым далей ад сваёй зямелькі, тым яна даражэй і бліжэй.

Ведаеце, у Палтаве, дзе я зараз жыву, ёсць рака — Ворскла. І вось увечары, калі змрок праглынае горад і запальваюцца вокны, зоркі і ліхтары, я прыходжу на мост над ракой. Углядаюся ў цёмныя вочы рэчкі і размаўляю з ёй на мове ветру, ападу лісця, зорак... І раптам — на правым, крутым беразе ўзнікае Сафія, запальваюцца паходні. Скачуць вершнікі. Імчыцца славутая Пагоня. Па зямлі, па небе, нада мной і праз мяне...

Я нарадзілася на Верхнім Замку, зусім побач з Сафійскім саборам. Дзяцінства прайшло ў Запалоцці, дзе з вакна свайй хаты ўвесь час бачыла Сафію, любавалася і ганарылася яе прыгажосцю. Яшчэ да рэстаўрацыі Сафіі мы з сябрамі часценька ўцякалі з урокаў, каб пашукаць у сутарэннях сабора цікавыя таямнічыя знаходкі. У вядомым толькі нам месцы была захавана рыдлёўка. З яе дапамогай мы вялі росшук скарбаў. Дужа ганарыліся гэтай сваёй таямніцай. Маленькія, дурненькія дзівакі! Тады мы яшчэ не разумелі, што, шукаючы скарбы ў зямлі, мы знаходзілі іх у душы. Сафійка стала нашай душой і галоўным скарбам на ўсё жыццё.

У дзяцінстве мне часта сніўся адзін дзіўны сон: быццам рукі мае помняць сябе крыламі. Лёгкай пярынкай я адрываюся ад зямлі і ператвараюся ў белюткую птушку. Павольна кружуся над Сафійкай. І спяваю, спяваю... Дзівосны сон. Прарочы. Сніўся, каб спраўдзіцца праз столькі год...

*...Зямля мая, счарнелая ад болю,*
*Спустошаная, у попеле, крыві,*
*Зямля мая, пагавары са мною,*
*Дачку сваю, пакутніцу, прымі.*

Зямля, дзе я цяпер жыву, вельмі прыгожая і шчодрая. Пра яе тут кажуць: «Уваткні аглоблю — дрэва вырасце». Людзі — вясёлыя, працавітыя, гаспадарлівыя. Вельмі любяць спяваць і ведаюць свае народныя песні. Шануюць сваю родную мову. У Палтаве толькі трэцяя часціна расійскіх школ і садкоў. Усе астатнія — украінскія. Палтаўшчына — багатая на таленты. Гэта бацькаўшчына Гогаля і Катлярэўскага, Панаса Мірнага і Караленкі. На гэтай зямлі ў мяне нарадзіўся сын. І я вельмі спадзяюся, што ён будзе чалавекам разумным і таленавітым. Побач са мной жывуць мае новыя сябры, любімы муж. Я пішу вершы. Вядома, на сваёй роднай мове. Іх перакладаюць на ўкраінскую і друкуюць у мясцовых выданнях. Выступаю на паэтычных вечарах і конкурсах. Мае знаёмыя і сябры проста заказаліся ў беларускае слова і выказваюць жаданне чуць яго як мага часцей. Можа, гэта прагучыць занадта гучна, але ў распаўсюджванні беларускага слова я бачу свой абавязак, сваю місію на Украіне.

Аднойчы адзін мой знаёмы параіў: «Калі ты хочаш, каб цябе чыталі і разумелі тут, на Украіне, трэба пісаць украінскай мовай. Міне час, і абарвецца пупавіна, якая звязвала цябе з радзімай. Твае слова стане літаратурным. Пра цябе забудуцца там, дзе ты раней жыла...»

Я нічога яму не адказала. Тут дарэмна нешта казаць. Ён ніколі не прачытае гэтай маёй споведзі. Ніколі не зразумее маёй тугі. А таму — я зачыніла за сабой дзверы, заплюшчыла вочы і... ператварылася ў самотную, белую птушку.

«Вось ужо і мяжа Рэспублікі Беларусь. Вы задумаліся. Можаце прамінуць», — нечакана сказаў мой прадбачлівы сусед па купэ. Дзівак, як я магу прапусціць мяжу, калі яна заўсёды са мной і праходзіць праз душу, жыццё, скон і новае адраджэнне.

Я — птушка. Я ведаю мову верасу ў буйнай расе. У мяне расце сынок — маленькае, кволае птушанятка. Я вучу яго сваёй мове, каб і ён мог знайсці дарогу дадому.

Іна СНАРСКАЯ.



Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

# Я ЗГОДЗЕН З ВАМІ, ДЗЯДЗЬКА МАКСІМ ГАРЭЦКІ



Не! Я не пляменнік Вам у звычайным разуменні гэтага слова. Але я ваш зямляк. Маці мая з вёскі Мядзьведзева, тата — з Кледнявіч. Гэта недалёка ад Багацькаўкі — каля Студзянца, Нікольска; там і Цемналессе (Цёмны лес), аб якім, — вядома, вобразна, — Вы так многа пісалі з вялікім, незвычайна глыбокім пранікненнем у сэнс жыцця чалавечага. Вы, безумоўна, добра памятаеце, што дзядзькам у нас называлі кожнага вельмі паважанага мужчыну. І мне было заўжды дзіўна чуць, калі майго бацьку называлі дзядзькам (а жанчыны — дзядзечкам) людзі старэйшыя за яго. Праўда! Добры быў звычай. Вярнуць бы яго ў сучаснасць! Але... далёка не ад нас тое залежыць...

На прыкладах Вашага брата Гаўрылы і пляменніка Радзіма (няхай прабачаць, што так называю) я ўяўляю Вас добрым, пакладзістым, даверлівым, добразычлівым, глыбокадумным чалавекам, які хварэў нясцерпным болем за лёс нашай многапакутнай Беларусі.

Вялікі дзякуй Вам за гэта! Па духу я сапраўды родны для Вас. І ў жыцці ў нас з Вамі вельмі многа падабенства. Яшчэ маленькім дашкольнікам запомніў жудасную сцэну раскулачвання. І зараз у памяці стаіць, як «бядняк-актывіст» біў маю бабку Марыну, як сабака Тузік учапіўся яму зубамі ў нагу, як ён енчыў. Добра помніцца вечар, бацьку забіралі прадстаўнікі Савецкай улады. Але, дзякуй Богу, ён застаўся жывы. І не трымаў злосці на Радзіму, а бараніў яе ў час апошняй страшэннай вайны. Бо народ і бальшавіцкае кіраўніцтва тых часоў — гэта зусім не адно і тое ж, хоць яны сцвярджалі адваротнае.

Я таксама, як і Вы, прайшоў праз маці Беларускай адукацыі — Горацкую акадэмію і заўжды буду ўдзячны ёй.

Гэта так, да слова...

Я вельмі добра пазнаёміўся з Вашай творчасцю — спачатку самастойна, потым праз дзядзьку Міхася Мушынскага, які вялікі кавалак жыцця прысвяціў данясенню Вашай думкі да людзей.

У выніку, на маю думку, Вы для свайго часу былі своеасаблівым геніем Льва Талстога і носьбітам неўміручага таленту Фёдара Дастаеўскага. Вялікі дзякуй Вам, што вы такімі простымі словамі, так зразумела, нават для людзей з невысокай адукацыяй, напісалі аб вайне. І калі б Вашы запіскі салдата Лявона Задумы «На імперыялістычнай вайне» добра вывучалі ў школах усе кіраўнікі дзяржаў і тыя, хто збіраецца на іншыя вялікія дзяржаўныя пасады, то ніколі больш вайны не было б. А Ваша «Меланхолія» будзе аднесена калі-небудзь да лепшых, найбольш канкрэтных філасофскіх выказванняў, якія ўвойдуць у сутнасць людскую. Праўда, «Ленінскі шлях» (гэта раённая газета нашых родных Горак) прытрымліваецца другой думкі. Але, родненькі дзядзечка, не звяртайце на гэта ўвагі. Бо кіраўнікам той газеты (і, відаць, раёна) вельмі хочацца крочыць па так міламу для іх «Ленінскаму шляху», які прынёс столькі пакут і велізарнай шкоды не толькі Беларусі, яе народу, але і ўсяму чалавецтву.

Гэта таксама да слова...

І яшчэ, родненькі дзядзечка, прызнаюся Вам у тым, што калі я свой погляд на сучаснасць (вынік «Ленінскага шляху») дапаўняю Вашым ранейшым роздумам, то на маё хворае сэрца кладзецца нясцерпны цяжар. Гэта ж трэба, у Злучаных Штатах Амерыкі курыць толькі адзін з сямі, а ў нас — наадварот. Вечарам жа, дзядзечка, такое можна ўбачыць на вуліцах Мінска, што нават на маёй лысай галаве валасы падымаюцца дыбам. Вам і ўявіць такое цяжка: кожны з трох мужчын і падлеткаў п'яны, як казалі ў нас на радзіме, «у сцельку». Ад гэтага нацыя можа знікнуць хутчэй, чым ад Чарнобыльскай трагедыі — проста людзі паступова перастануць працаваць і ператварацца ў жывёлападобных істот.

А калі б Ваша каханая, працавітая, сціплая і вельмі сарамлівая Лёксачка (вядома, з нашага Цёмналесся) убачыла зараз сваіх аднагодак, то, упэўнен, страціла б прытомнасць. Бо ходзяць яны (дужа сорамна казаць аб гэтым) амаль без спадніц. Замест іх — вузенькі цесны паясок у адпаведным месцы. Яны, кажуць, імкнуцца паказаць быццам бы... прыгажосць. Але на самой справе такое робіцца ад вузкасці мыслення дзеля спакусы мужчын, як гэта рабіла Ева ў адносінах да Адама. Хоць там усё было інакш і для святых мэтаў, не маючых дачынення да агіднасці.

Злачыннасць жа сучасная, брыдота паводзін, дробязнасць, родненькі дзядзечка, растуць страшэнна. Людзі імкнуцца працаваць усё менш і менш. А ўсё больш і больш патрабуюць паляпшэння спажывання і дабрабыту наогул. Толькі невядома ад каго. Бяссільныя ўлады ў адказ безупынна павялічваюць друкаванне грошай, што губляюць кошт яшчэ хутчэй. Год назад бохан хлеба каштаваў 30 капеек. Зараз 30 рублёў. І, кажуць, гэта толькі пачатак...

Пануюць бяздумныя і безадказныя «свабода, роўнасць і братэрства» з дэмакратыяй законаў натоўпу. Усё гэта вельмі хвалюе толькі невялікую меншасць. Большасць жа некаму згуртаваць і накіраваць па шляху панавання розуму, памножанага на гуманізм і дзейсныя клопаты аб сучасным і будучым. Каб паляпшаць жыццё.

Вядома, адзначанае — вынік не матэрыяльных недахопаў, хоць так сцвярджаюць нашы «павярхоўныя» ўлады і некаторыя інтэлігенты. Усё гэта — вынік узросту цемрашальства, нават дзікунства многіх людзей, нізкай духоўнасці грамадства. Таму я шукаю ў вашых творах адказаў — як быць, што рабіць? А пакуль што прапаную ператварыць Таварыства беларускай мовы рэспублікі ў Таварыства Беларускай Духоўнасці. Каб вучыць ёй як пісьменнасці жыцця ўсіх людзей, а асабліва — дзяцей і моладзь. Каб яно дапамагло замяніць заклік «свядомасць вызначаецца жыццём» на другі: «Свядомасць, з улікам абставін жыцця і чалавечых імкненняў, павінна вызначаць змест дзеянняў і ўчынкаў людзей». Тады не піць яны будуць «з гора», а сумесна шукаць шляхі да лепшай працы, да лепшых яе вынікаў, да жыцця, годнага высокага паняцця «ЧАЛАВЕК». Каб Свабода была неразлучна з Адказнасцю кожнага чалавека перад самім сабой і грамадствам. Каб роўнасць была правам таксама кожнага чалавека на праяву Розуму, Годнасці і Сумлення і не ўраўнаважвала Духоўнасць з цемрашальствам, Генія з агрэсіўнай пасрэднасцю, ахвярнага працаўніка з лайдаком. Каб Братэрства было сястрой Духоўнасці і не прыніжала Чалавечае Вышэйшае з ніжэйшым.

Каб зноў насуперак законам прыроды «нішто не станавілася ўсім» дзеля здзеку над Розумам, Гонарам і Сумленнем. Каб нашы двары і вуліцы перасталі быць сметнікамі ў прамым і пераносным сэнсе, а ператварыліся ў кветнікі. Каб з іх зусім зніклі п'яныя свіныя рожы, часта з азвярэлым аскалам, ці выглядам людзей, страціўшых павагу да саміх сябе. Каб нашыя пенсіянеры выразам твару, ахайнасцю, сваімі паводзінамі і наогул усёй сваёй істотай былі падобны на мудрацоў, перапоўненых жыццёвай мудрасцю.

Каб усе імкнуліся да працы як да сэнсу жыцця. Каб пры тым памяталі, што даход — галоўнае, але чалавечы гонар — вышэй за ўсё. Каб рынак не стаў праявай рвацкага эгаізму, а з'явіўся сістэмай цывілізаваных адносін вытворцаў і спажыўцоў, узаемна зацікаўленых у добрых выніках.

Каб у жыццёвых адносінах і паводзінах усе заўжды адчувалі сябе часцінай грамадства і ведалі, што асабістыя дзеянні людзей і грамадства павінны накіроўвацца непарыўным перапляценнем пяці палітык: асобнага чалавека, ягонай сям'і, працоўнага калектыву, дзяржавы, усяго свету. Бо тое, што, напрыклад, адбываецца ў Афрыцы, прама ці ўскосна ўплывае на ўсіх людзей. Каб добра ўяўлялі, што прагрэс жыцця чалавека і грамадства непарыўны. Ён магчымы пры пасільным укладзе ў гэту справу намаганняў кожнага. Каб чалавек у канцы дня мог спытаць сам сябе: на колькі капеек ці рублёў я (прама ці ўскосна) зрабіў бескарыснага сваімі ўчынкамі, дзеяннямі, імкненнямі.

Каб усё гэта ўкаранялася ў свядомасць людзей яшчэ з дзіцячых садкоў і першых класаў школы.

Як ні дзіўна, але нават выкладчыкі ВНУ зараз не ведаюць, што такое духоўнасць. Адны кажуць, што гэта рэлігійныя правы, другія — добрае абыходжанне, трэція сцвярджаюць — «прыгожае» жыццё, чацвёртыя — жыццё душы, хоць яно можа быць насычана злачыннымі імкненнямі.

Вялікі дзякуй Вам, родненькі дзядзечка, што Вы за сваё невялікае, часам больш чым пакутнае жыццё зрабілі вельмі многае ў вышэйназваных напрамках. Што простымі словамі ставілі аб тым пытанні і імкнуліся адшукаць дастойныя чалавека адказы на іх.

Я згодзен з Вамі, што знойдуцца пакутнікі і зараз. Вядома, такія, якія панясуць Вашы думкі ў жыццё наогул і ў нашай Беларусі ў асаблівасці — з улікам працэсу беларусізацыі (абставін, умоў, дзяржаўнага і прыроднага асяроддзя і інш.).

І я згодзен з Вамі, дзядзечка Максім, і ў тым, што"Нацыя — з'ява вечная, яна прамудрая творчасць самаго Госпада Бога". (Вашы выбраныя творы. Мн., 1988 г., стар.476). Згодзен з Вамі і ў тым, што «народ мой (беларускі — аўт.) — народ-паэт, народ — лірык». Ён «у гістарычным жыцці сваім заўжды аддаваў перавагу патрэбам душы перад патрэбамі цела». Згодзен, дзядзечка, таксама з Вашым сцвярджэннем: «Ёсць у нас якаясьці сіла са сваімі ідэаламі». Яна «дапаможа нам аб'яднацца і пайсці сваім шляхам», па якім весці будзе Духоўнасць, як згустак усяго лепшага, што пакінулі нам нашы мінулыя пакаленні. Згодзен, што мова — зберагальнік «таго лепшага, чалавечна-беларускага», самабытных рысаў нашага народа. Без яе ён знікне, як этнас, чаго гісторыя і нашы нашчадкі ніколі не даруюць нам. Упэўнен, што народ разбярэцца ў гэтым, і ніякія «Славянскія саборы» і вайскова-бальшавіцкія згуртаванні не здольны будуць стрымаць ператварэнне гэтай упэўненасці ў дзейнасць.

Пагэтаму мне было вельмі крыўдна, калі на лекцыі аб Вашым ахвяраванні дзеля шчасця людскога і нашай Бацькаўшчыны, некаторыя нашы выкладчыкі не проста не слухалі пранікнёныя словы Міхася Мушынскага, а займаліся чым заўгодна, толькі не духоўнасцю (услых абменьваліся з суседзямі якімісьці думкамі). Міхасю таксама было непрыемна. Але ён разумны чалавек і добра ўяўляе, што шлях сапраўднай духоўнасці да чалавечых сэрцаў яшчэ толькі пачынаецца. І ён будзе цяжкім. Таму і загінулі Вы і другія шаноўныя дзядзькі. І не проста Сталін у гэтым вінаваты, а цемрашальства вялікай колькасці людзей. Інакш яны не дапусцілі б генацыду над Розумам, Гонарам і Сумленнем і росквіту самага брыдкага ў сучасным грамадстве. У гэтым я згодзен з Вамі, з Вашымі думкамі.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**

# АЧЫШЧЭННЕ БУДЗЕ БАЛЮЧЫМ

Салодкі водар нязвыклых кветак, уласцівых хутчэй для тропікаў, чым для Беларусі, напаўняў гарачае ліпеньскае паветра. Над кветкамі зіхацела воблака. Разгарнуўшы густую заслону бэзу, мы заўважылі старыя могілкі. Дакладней, тое месца, дзе яны некалі існавалі. Бо надмагільныя помнікі былі зруйнаваныя. Ямы рабаўнікоў паказвалі на месцы, дзе раней знайшлі прытулак памёрлыя. На паверхні зямлі ляжалі косці людзей — іх выкінулі з магіл нелюдзі. Нельга ўяўвіць сабе больш цяжкі грэх.

Жудасць таго, што тут адбылося, падкрэслівала эпітафія на адным з помнікаў: «Божа, дай яе душы спакой, якога сьвет даць не мог». У гэтай магіле была пахавана маладая 25-гадовая жанчына Анэля Ёдкава. На надмагіллі высечана разгорнутая кніга. Вядома, што Анэля пісала вершы. На жаль, я пакуль што не знайшоў яе вершаў. Магчыма, Анэля не паспела надрукаваць іх. Жыццё скончылася раней. А душа так і не знайшла спакою. Побач — знішчаная магіла Анэлінага брата, сусветнавядомага вучонага Якава Наркевіча-Ёдкі. Тое, што мы ўбачылі на былых панскіх могілках ля маёнтка Над-Нёман на Вуздзеншчыне, даводзілася часта назіраць і ў іншых кутках Беларусі.

Апаганеныя магілы, зруйнаваныя палацы, высечаныя паркі... Быццам хваля варварскага нашэсця пранеслася па нашых землях. Рэвалюцыі заўсёды суправаджаліся ахвярамі і разбурэннямі. Аднак такое ўсеагульнае спусташэнне, што адбылося на тэрыторыі Расейскай імперыі пасля кастрычніка 1917 г., назіралася, бадай што, упершыню ў гісторыі.

Будаўніцтва «сусветнага будучага» пачалося з руйнавання гісторыка-культурнай спадчыны мінулага. Матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, створаныя нашымі продкамі, апавяшчаліся нявартымі ўвагі. Пры гэтым нішчыліся не толькі сядзібы і помнікі «класавага ворага». «Савецкія Герастраты» палілі і разбуралі пабудаваныя сваімі ж бацькамі і дзядамі цэрквы, касцёлы, сінагогі, іншыя помнікі архітэктуры. З маленства запомнілася апавяданне бабулі пра аднаго з такіх вырадкаў, каторы вырашыў адзначыцца перад новымі ўладамі, спаліўшы царкву ў мястэчку Александрыя, што непадалёку ад Воршы.

У ацалелых культавых будынках уладжваліся клубы, зернясховішчы, а то і проста сметнікі. Пад лозунгам «вайна палацам» грамадства пануралася ў глыбокі духоўны крызіс. Першыя ролі ў краіне сталі выконваць адарваныя ад сваіх нацыянальных і рэлігійных каранёў партакраты, для якіх не існавала нічога святога. За гады панавання бальшавіцкіх уладаў у нас было выхавана не адно пакаленне людзей, якімі знішчэнне помнікаў гісторыі і культуры ўспрымалася ў лепшым выпадку абыякава. Культурна-нацыянальная свядомасць народа выкарчоўвалася шляхам дэмагагічнай прапаганды, запалохвання і рэпрэсій. Лепшыя прадстаўнікі нацыянальнай культуры называліся «ворагамі народа». Таталітарны рэжым патрабаваў знівеліраваную ад нацыянальных асаблівасцяў, прыстасаваную да інтарэсаў партапарата культуру.

Зачыненыя школы роднай мовы, разбураныя святыні, забароненыя імёны і творы — вось сапраўдныя плады барацьбы савецкай улады за «новую сацыялістычную культуру». Але самай вялікай стратай, якую панесла наша грамадства за апошнія семдзесят гадоў, стаў чалавек. Чалавек, які згубіў сваю гісторыю, сваю родную мову, сваё нацыянальнае аблічча. Гэта народная трагедыя яшчэ доўгі час будзе напамінаць пра сябе на нашай зямлі. Ачышчэнне нашых душ ад плюгаўства і вяртанне да хрысціянства будзе працяглым і балючым.

Сёння мы павінны выкарыстаць свой, напэўна, апошні гістарычны шанц, каб заняць пачэснае месца сярод цывілізаваных народаў свету. І вызначацца гэтае маесца будзе перш за ўсё ўзроўнем адукаванасці і культуры нашага народа. Мы ніколі не зможам стаць палітычна і эканамічна самастойнымі, заможнымі, пакуль не станем духоўна багатымі. Галоўную ўвагу нашаму грамадству трэба звярнуць на выхаванне тых, хто зараз пачынае сваё жыццё. Калі нашы дзеці будуць выхаваны на агульначалавечых хрысціянскіх нормах, калі яны змогуць стаць сапраўднымі гаспадарамі на роднай зямлі, калі яны сэрцам адчуюць сябе беларусамі, тады мы зможам адрадзіць сваю мову, сваю культуру, сваю Бацькаўшчыну.

**Валеры ШАБЛЮК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

***У Менску пачаўся з'езд беларусаў свету, які, спадзяёмся, стане новым крокам да яднання «тутэйшых» і «тамтэйшых». У апошнія гады пачала ствараціца, так бы мовіць, агульная інфармацыйная прастора беларушчыны. Чытачы на гістарычнай радзіме пазнаёміліся з творчасцю замежных суайчыннікаў, дыяспарныя выданні прысвячаюць свае старонкі славутым грамадзянам Беларусі. У гэтай сувязі нам падалося натуральным змясціць побач два матэрыялы, якія акрэсліваюць вышэйзгаданыя ўзаемапранікальныя патокі агульнай плыні.***

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ**

# «ПРАЗ СЛЁЗЫ АДЧУВАЕЦЦА НАДЗЕЯ . . .»

*Магутны Божа! Уладар сусветаў,*
*Вялізных сонцаў і сэрц малых,*
*Над Беларуссяй ціхай і ветлай*
*Рассып праменне Свае хвалы...*

Гэтую малітву ўжо ведае кожны беларус. А я пачула яе ў царкве Жыровіцкай Божае Маці, што ў Злучаных Штатах.

Стаялі людзі на каленях і маліліся Богу ў Амерыцы за Беларусь, па-беларуску! Было гэта чатыры гады таму...



Лёс зрабіў мне падарунак, мне пашанцавала сустрэцца з аўтаркай гэтага верша паэткай Натальляй Арсеньевай. Я напісала сцэнарый, зняла пра яе фільм, але адчуванне было такое, што нешта недагаварыла. І таму ўзнік гэты артыкул.

... Нарадзілася беларуская паэтка на Каўказе, у Баку. Па бацькоўскай лініі яна сваячка роду Лермантавых (памятаеце, бабка расейскага паэта — Арсеньева). З таго ж роду паходзіць паэт і вучоны Мікалай Арсеньеў, які памёр тут, у Злучаных Штатах.

Бацька паэткі быў расейскім урадоўцам і таму, калі ў 1915 годзе нямецкая армія падыходзіла да Вільні, іх сям'я змушана была выехаць глыбей у Расію, у горад Яраслаўль. Пражылі яны там чатыры гады і там перажылі кастрычніцкі пераварот.

Наталля паступіла ў Яраслаўскую Кацярынінскую гімназію і вельмі добра памятае настаўніцу літаратуры, пад уплывам якой яна спрабавала напісаць верш, але «як ні старалася выціснуць із сябе хоць пару радкоў, нічога не выходзіла».

Гімназістка Наталля любіла маляваць. Малявала вокладкі, малявала краявіды, якія захаплялі яе. Любіла яна яшчэ ляпіць з гліны.

... У Яраслаўлі Арсеньевы ледзь не загінулі, калі пачалося паўстанне.

І вось, дзякуючы Богу, у студзені 1920 года ізноў — родны край, дзе...

*... Таюць аблокі ў небе высокім,*
*Хвалі туману над Вільняй стаяць.*
*Места мярэсьціцца ўнізе, далёка,*
*Вежы касцёлаў у неба глядзяць,*
*Цэркваў блішчаць залатыя галовы,*
*Цёмнымі плямамі дрэвы ляглі,*
*Сіняй палоскаю бор нат хвалёвы*
*Ледзь а відаць за істужкай Вяльлі...*

Гэты верш яна напіша крыху пазней, а пакуль што ёй даводзілася як старэйшай дапамагаць сям'і, бо хварэлі бацька й маці, памерла сястра. І ў шаснаццаць год Наталля давала ўрокі французскай і нямецкай мовы вучням віленскіх школ.

У Вільні заснавалася Першая беларуская гімназія, куды паступіла маладая Наталля разам з братам і сястрою.

Потым паэтка напіша: «Шмат хто з вучняў і настаўнікаў галадаваў, але ня было нястачы толькі ў ваднным — у запале, у гарачых ахвярных сэрцах, у людзях, якія, дарма што холад і голад, аддана вялі сваю працу з аднэю думкай — зрабіць шчаслівай сваю Бацькаўшчыну — Беларусь».

І яшчэ: «Можна сказаць, што Віленская беларуская гімназія зрабіла з мяне беларускую паэтку Наталлю Арсеньеву, якая ня можа ня любіць Беларусь, штоб ня стала яшчэ на сьвеце... Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч, Цётка Алёна — вось людзі, якія вучылі тут беларускую моладзь і якія навучылі мяне горача любіць Беларусь, такую пакрыўджаную лёсам, але такую чароўную...»

Гэта, мне здаецца, і ёсць адказ на пытанне, чаму яна, руская па нараджэнні, а піша, думае, размаўляе па-беларуску. Сама паэтка тлумачыць гэту акалічнасць свайго лёсу так: «Я не паспела праніцца расейскім духам, палюбіць расейскую культуру, калі пачала развівацца духова, трапіла ў беларускае асяроддзе, сустрэлася з беларускай справай і захапілася ёю».

Падумайце, а колькі ў нас страчаных паэтаў, пісьменнікаў, дзеячоў культуры, бо калі яны пачалі развівацца духова на «прадзядоў зямлі», замест роднай мовы і роднай культуры павінны былі паўтараць: «Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин»... А чаму не гэтыя вось чароўныя радкі?

*Наша ж мова — цудоўная, сьпеўная,*
*Умее сьпелым калоссем шумець,*
*Галасіць навальніцай улеўнаю,*
*Верасеньчаю медзяй звінець...*

*... Мова наша —*
*выкутая з золата*
*Ня іржавее,*
*блішчыць,*
*зігаціць...*

Гэты верш быў напісаны Арсеньевай ў 1942 годзе ў Менску.

А мы з вамі павернемся да першага верша маладой паэткі...

... Першы верш. Гэта заўсёды надзея. Для адных гэта ўзлёт, для другіх — толькі спроба пяра. Але заўсёды маладому паэту патрэбен «хросны бацька». Для маладога Янкі Купалы ім быў Уладзімір Самойла, для маладой Наталлі Арсеньевай —Максім Гарэцкі.

Аднойчы, калі яна вучылася ў 8 класе, набраўшыся смеласці падышла да свайго настаўніка беларускай мовы і літаратуры і... паказала свой першы верш. Гарэцкі ўважліва прачытаў яго, узяў з сабой і... нічога не сказаў. Яна вельмі хвалявалася. І вось толькі ўвечары, на вучнёўскай вечарыны, Гарэцкі выйшаў на сцэну і сказаў, што мае да ўсіх добрую навіну: «З'явілася новая Канстанцыя Буйла», — і зачытаў верш. Потым паэтка напіша: «Першым маім крытыкам і суровым настаўнікам быў мой настаўнік літаратуры Максім Гарэцкі. Ён з вялікай увагай праглядаў мае першыя вершы, ганіў, што было блага, заахвочваў мяне да лепшага пісання. Ягонае сьветлае імя я й дагэтуль заўсёды ўспамінаю з вялікай удзячнасцю й любасцю».

Я не магу ўтрымацца і прыводжу першы верш маладой паэткі цалкам. А надрукаваны ён быў 8 верасня 1921 года ў газеце «Наша думка», што выходзіла ў Вільні.

*Восень*

*Як не любіць мне восень залатую,*
*Калі праз вопратку асін густую*
*Тон прабіваецца чырвоны, слаўны тон,*
*І ў золаце стаіць маўклівы,*
*пышны клён?*
*Як не любіць мне восень залатую,*
*Калі на ніву зжатую, пустую,*
*Ліецца ўначы, як малако, туман*
*І павучынне скрозь*
*на хмызьняку палян.*
*Як не любіць мне восень залатую,*
*Як не любіць мне частку году тую,*
*Калі я веру ўсім, калі душа гарыць,*
*І хочацца так век,*
*хоць сумаваць, а жыць...*

Вільня, верасень 1921 год.

Пасля сканчэння гімназіі і курсаў настаўнікаў беларускіх народных школ, маладая Наталля Арсеньева пачала працаваць у адной з васьмі пачатковых школ, што былі адчынены тады ў Вільні.

Другім настаўнікам і кіраўніком школы «быў шчыры беларус, слуцкі паўстанец і добры хлапец Міхась Кабераці, які праз год памёр ад сухотаў у Празе».

Вершы паэткі пачалі часта друкавацца ў розных газетах і часопісах і неўзабаве убачыў свет ейны першы зборнік «Пад сінім небам».

Не абышоў увагай маладую паэтку і вядомы прафесар Карскі. У III томе «Беларусаў» ён напісаў пра яе: «Навейшая пісьменніца. Паводле водгуку Гарэцкага вельмі таленавітая».

«Хросны бацька» Янкі Купалы Уладзімір Самойла таксама прымаў удзел у маім лёсе, — расказвала мне спадарыня паэтка, — ён напісаў вялікі артыкул «Верная дачка Сонца і Шчырай Зямелькі» ў часопісе «Родныя Гоні».

Хутка ў жыцці Наталлі адбываецца падзея, якая ізноў змусіла яе пакінуць Вільню. Яна выйшла замуж за Францішка Кушаля, беларускага вайскоўца і палітычнага дзеяча, сябра Беларускае вайсковае камісіі ў 1919 — 1920 гадах, у тым часе капітана, а ў канцы жыцця — генерала. Я спыталася паэтку, як адбілася гэтая падзея на яе творчасці?

— У маіх вершах каханне, замуства, не ведаю чаму, не адбілася, — адказала яна.

Але гартаючы яе вершы, я знайшла прысвечанае Ф.К. (Францішак Кушаль?)

*У лесе*

*Лес вітаў нас нячутнымі словамі,*
*Нам сьмяялася неба празрыстае,*
*А над намі, угары над дубровамі*
*Хмаркі таялі лёгкія, чыстыя...*
*Штось шасцеў лес... Дубровай зялёнаю*
*Слаў із ветрам нам шляхі зводныя*
*І здавалася дзіўна знаёмаю*
*Мова іх, і чужая і родная...*

Вільня, 1921 год.

Шлях іх быў доўгі і шчаслівы. Пасля вяселля Кушалі адразу ж выехалі ў Польшчу. У іх нарадзіліся два сыны. Старэйшы —Яраслаў, які загінуў у Менску пры выбуху ў тэатры ў 1943 годзе (яму тады не было і 20 гадоў) і малодшы Уладзімір, які жыве цяпер з маці ў Злучаных Штатах.

— Маці і паэтка, як гэта лучыцца? — спыталася я ў спадарыні Арсеньевай.

— А ніяк не лучыцца, — адказала яна мне, — жыццё жыццём, а паэзія — над жыццём. Але ж жыццё толькі дае тэму, і тады ўзрушаная душа просіцца на паперу.

Вось верш «Маці», які паэтка напісала амаль за год да трагічнай смерці сына:

*Годзе плакаць.*
*Чакай вясны!*
*Гэдак кажуць табе суседзі,*
*Гэдак ты запаўняеш дні.*

*Але ж ночы?*
*Як іх праседзець?*
*Як іх зьвесці, як спадманіць?*
*Чорны твар яны шчыльна туляць*
*Да затканых марозам шыб, —*

*Пачынаеш дзіўныя гулі*
*з успамінамі з дна душы.*
*Успамінаеш яго галоўку*
*У калысцы і першы крок...*
*Падпаўзае галодным воўкам*

*Боль...*

Як жа тут паэзія над жыццём?.. Як жа трэба было несці ў сэрцы Крыж болю, каб гэтак напісаць? Але ў вершах, напісаных пасля 1943 г., я не знайшла ні радка пра гэту трагедыю. Відаць, гора высушыла слёзы.

— Я не бунтарка і не падзяляю людзей на ворагаў і няворагаў. Галоўнае для мяне — які ён чалавек, а якога паходжання: ці

яўрэй, ці немец, ці беларус — не робіць розніцы. Галоўнае — варты ці не варты быць чалавекам. Я напісала верш «Палег-лым», у якім выказала гэту праблему.

— Чаго больш за ўсё не прымае ваша душа? — спыталася я ў спадарыні.

— Здзекаў. Памятаю, у Казахстане, куды я была сасланая не за тое, што я Наталля Арсеньнева, а за тое, што я жонка вайсковага афіцэра Францішака Кушаля. Але ж гэта я зразумела шмат пазней. Мяне вызвалі на допыт. Першае пытанне: «Ну, а теперь расскажите нам, за что вы здесь?» Яны схапілі нас, ні слова не сказалі, за што, і тут — такое пытанне! Адкуль тады я магла ведаць, за што? У цывілізаванай краіне спачатку прад'яўляецца абвінавачванне, а тут — ці не здзек? Мой муж трапіў у лагер Старабельск, там было шмат вайсковых адусюль. Ім аднойчы начальнік лагера сказаў, каб яны напісалі пісьмы сваім жонкам і сем'ям, што, маўляў, здаровыя і ўсё добра. Яны яму паверылі і напісалі. І вельмі моцна памыліліся. Мы гэтых лістоў ніколі не атрымалі, а яны даведаліся адрасы сем'яў, і ўсе чыста сем'і былі звезены ў ссылку. Дзякуючы Янку Купалу і Максіму Танку, якія стараліся выцягнуць мяне адтуль, я ізноў апынулася на Беларусі. Дык вось, я лічу, што здзек — гэта найгоршае зло, у чым ён не праяўляўся б. Сама я яшчэ так-сяк гэта сцярплю — перажыву, але калі бачу, што другіх крыўдзяць, тады маё сэрца ірвецца... Памятаю, была маленькая, можа было мне недзе гэдак гадкоў пяць альбо шэсць. Мама рыхтавала стол для гасцей, а мая маленькая сястрычка, якая вельмі любіла салодкае, калі ўбачыла, што мама паставіла на стол яе любімыя сухарыкі, не магла дачакацца гасцей і хадзіла каля мамы і ўвесь час прасіла: «Мама, дай сухарык, дай сухарык, дай сухарык...» А старэйшы брат узяў кубік і кажа: «На табе сухарык!» Яна такая шчаслівая ўзяла гэты кубік, а калі хацела ўкусіць... зразумела, што гэта не сухарык, і такія ў яе вочы былі... Столькі гадоў прайшло, а я гэтыя вочкі ейныя забыць не магу... Глупства, здаецца, сухарык, але якое моцнае на ўсё жыццё ўражанне. Галоўнае, нічога, ніколі не рабіць благога, прыкрага іншаму.

— А што такое натхненне?

— Натхненне?.. Не ведаю дасканальна. У мяне калі яно «прыходзіць», падымаецца тэмпература, я ўся дрыжу... А калі пішу, іншым разам кожнае слова баліць... А напішу — усё сходзіць, і быццам здаровая...

...Прыгожы, чысты двухпавярховы дом у маляўнічым месцы ў штаце Нью-Ёрк, дзе жыве паэтка Наталля Арсеньнева. Шмат кветак, так падобных да нашых беларускіх. Зялёная трава.

— Я выбрала гэтыя мясціны, бо яны мне нагадваюць Беларусь, — сказала спадарыня Арсеньнева.

І падумаць толькі, усё жыццё гэтай мужнай і такога выбітнога лёсу жанчыны, паэткі — усё жыццё — эміграцыя. Нарадзілася на Каўказе, потым нядоўгі час жыла ў Вільні, потым Яраслаўль, потым Вільня, потым Польшча, далей Нямеччына і вось — Амерыка. Але ж! Усё жыццё туга па Беларусі...

— Вось так і шукаем мы Бацькаўшчыну тут, за акіянам, — сумна і ціха сказала яна.

«Дык гэта ж за акіянам, — падумала я, — а што нам, беларусам, рабіць дома? Дзе шукаць Бацькаўшчыну?»

Немажліва перадаць і апісаць яе незвычайны ласкавы і нізкі голас, яе зіхатлівыя, зусім маладыя вочы, яе лагодную, сціплую усмешку, асаблівую жаночую абаяльнасць, гасціннасць... Дзякуючы Богу вярнулася імя паэткі дадому.

Калісьці з-пад яе пяра выйшлі вось такія радкі:

*Я — ж пішу...*
*Навошта я пішу,*
*Для каго?*
*Па шчырасці — ня знаю.*

На тое можа і пісала паэтка вершы, вандруючы па сваіх эміграцыях, каб калі-небудзь беларускі хлопчык расказаў свой першы вершык на роднай мове.

Я спрабавала толькі зрабіць пэўныя маленькія замалёўкі аб маім уражанні ад сустрэчы з гэтай цудоўнай паэткай, прыгожай жанчынай. І я веру, мая Айчына прытуліць да свайго сэрца яе класічную паэзію.

*На здымку:*

Н. Арсеньнева і В. Вярбоўская падчас здымак фільма «Беларусы, што жывуць у Амерыцы», 1992 г.

# ЗА ІМ ІДУЦЬ ЛЮДЗІ

## З УСПАМІНАЎ МАСТАКА ЯЎГЕНА ЦІХАНОВІЧА, ШТО ДРУКУЮЦЦА Ў ЧАСОПІСЕ «ПОЛАЦАК», КЛІЎЛЕНД, ЗША

Так, прыйдзецца нам згадзіцца з крытыкам Дрэмам, з тым, што не ўсялякая тэма можа служыць матэрыялам у мастацтве. Хопіць ужо палотнаў на ваенную тэму, хопіць смакаваць забойствы, настаў час пісаць харaство жыцця, харaство прыроды і чалавека ў ёй. Зайцаў нейкі час знаходзіўся ў дзеючай арміі, здаецца, у той гарачай бойцы, калі немцаў адкінулі ад Масквы. Ён бачыў вынікі гэтага моцнага наступу ў тую вельмі халодную зіму. Зайцава здзівіла вялікая колькасць забітых немцаў: дагэтуль жа толькі адступалі і вось — перамога. Вачыма мастака ён глядзеў на прыкрыя выпадкі, калі на твар немца-мерцвяка нехта апаражніў свой страўнік. Зайцаў мне апавядаў пра вайну і пра вось такія выпадкі, якія былі не адзінкавыя. «Бачыш, — казаў ён, — на нашым шляху, адкідваючы немцаў ад Масквы, мы бачылі забітых немцаў у розных позах, замарожаных і пакрытых інеем і абавязкова забруджаных чалавечымі экскрэментамі. Карціна жудасная, бо такім чынам выказвалася помста ўжо не супраціўнікам, а ўсяго толькі мерцвякам.»

Добра нам зараз разважаць так, а што было тады, калі ты атрымаў звесткі аб тым, што твае дзеці і жонка спалены разам з вялікай пуняй, у якую сагналі ўсіх сялян — старых і малых? І ўсё ж такі...

Мой сябра скульптар Адашкевіч бачыў на фронце яшчэ больш жудасную карціну, калі нашы войскі праваліся на нямецкую тэрыторыю гвалцілі жанчын, а немаўлятак хапалі за ножкі ды білі іх галоўкамі аб сцены. Можа, мне не трэба было пісаць аб гэтым у сваіх успамінах, але ж я мушу пісаць хоць бы і са слоў Сяргея Адашкевіча, бо сам ён не напіша ніколі, а разлічваць на тое, што гэтыя факты хтосьці напіша ў будучым, не даводзіцца. Тут я павінен адхіліцца ад апавядання пра Зайцава і прадоўжыць думку наконт таго, што трэба пісаць пра вайну і чаго пісаць не трэба.

Зараз, мне здаецца, будзе дарэчы прыгадаць Васіля Быкава, які пісаў пра вайну тое, што бачыў сваімі вачыма, што перажыў як звычайны салдат, а потым, пасля вучобы ў ваенным вучылішчы, ужо як афіцэр, удзельнік у баях на 2-м і 3-м Украінскіх франтах.

У даведніку «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» выдання 1970 г. гаворыцца: «Друкавацца пачаў у 1949 годзе. Выдаў кнігі «Жураўліны крык», — называецца яшчэ 5 выданняў, працуе ў галіне драматургіі — называюцца тры фільмы». Вось і ўсё. Мала, сціпла, бо гэта было 22 гады таму. Значыць, на вайне Быкаў яшчэ не быў пісьменнікам, а вось мастаком быў, бо да вайны вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Не ведаю дакладна, скончыў ці не Быкаў вучылішча, можа, вайна прыпыніла вучобу.

Не ведаем, у каго вучыўся будучы пісьменнік. Мне цікава было шукаць звесткі пра Быкава, бо я таксама вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме з 29-га па 32 год. Гэта была адзіная на Беларусі мастацкая ўстанова.

Вядома ўжо даўно, што мастак у салдацкім шынялі ніколі і нічога не занатуе ў накідах алоўкам, не намалюе, але вока мастака, як кажуць, мае зрокавую памяць, у аднаго болей, у другога меней, гэта залежыць ад здольнасцяў. Вось так, мне думаецца, і ў Быкава адкладалася ў памяці шмат такога, што потым лягла на паперу.

Не памятаю, у якім годзе гэта было, як мы з мастаком Л.Ранам заходзілі ў Літаратурны музей Янкі Купалы да дырэктара Янкі Шарахоўскага параіцца, якія купалаўскія мясціны нам наведаць, каб зрабіць малюнкі ці напісаць алейнымі фарбамі краявіды, патрэбныя музею.

Я ведаў Шарахоўскага яшчэ і як галоўнага рэдактара Дзяржаўнага выдавецтва БССР, калі працаваў над афармленнем Коласаўскага зборніка дзіцячых апавяданняў ды твораў іншых пісьменнікаў.




Мой сябра Лазар Ран вельмі добра запомніў Шарахоўскага яшчэ і таму, што аднойчы Ран падаў заяву ў народны суд на выдавецтва, маўляў, яму выплацілі ганарар не па дагавору, а значна меншы. Вядома, што на суд як сведку Шарахоўскі накіраваў мастака-графіка Яфіма Тараса, які працаваў у выдавецтве загадчыкам мастацкага афармлення кнігі.

Тарас не здолеў атрымаць перамогу на судзе, бо і сам не ведаў, чаму Шарахоўскі скараціў ганарар амаль напалову. А калі суддзя запытаўся ў Тараса, хто ён ёсць па прафесіі, той адказаў: «Я — графік». Разумею, адказаў суддзя, каліграфіст, сядайце. Атрымалася так, што каліграфіст як сведка па ацэнцы мастацкага твору не можа быць экспертам.

Так Шарахоўскі прайграў дзякуючы «каліграфісту» Тарасу. Я памятаю гэтую гісторыю таксама як удзельнік на баку Рана, ды яшчэ мастак Давідовіч, мастак Іван Ахрэмчык складалі «брыгаду падтрымкі» мастака, які апынуўся ў бядзе.

Гэта і нешта іншае не падабалася нам у характары чыноўніка ад літаратуры, але, што зробіш, ад яго залежала, зрабіць нам заказ на карціны «па Купалаўскіх мясцінах» ці не.

Шарахоўскі выслухаў нас, паклікаў да сябе Ядзвігу Раманоўскую, параіўся з ёю, потым даў ёй заданне падрыхтаваць план маршрутаў і прынесці хутка нам.

А тым часам ён пачаў гаворку аб стане нашай беларускай літаратуры ды яшчэ з такім абагульняючым шырокім поглядам, быццам лепш за ўсіх ведаў, куды трэба рухацца нашай беларускай літаратуры разам з іншымі «братнімі» літаратурамі. «Але вось што турбуе нас усіх, — казаў ён, — гэта тое, што з'яўляюцца ў нашай савецкай беларускай літаратуры такія горапісьменнікі, як Васіль Быкаў. Яшчэ малады пісьменнік, а ўжо задзірае нос. Гэта ж трэба было дайсці да таго, каб пераможцаў фашызму, нашых слаўных салдат ды афіцэраў так моцна абразіць і ганьбіць, на дробных фактах спыняцца і не ўбачыць, чаго каштавала наша перамога. Увесь народ, асабліва наш, беларускі, ніколі не даруе Васілю Быкаву скажэнне мастацкімі сродкамі сутнасці нашай перамогі». Шарахоўскі спасылаўся і на генералітэт савецкай арміі, які не праміне ўсенародна «осудить» пісьменніка.

Да таго часу я чытаў на расейскай мове «Мертвым не больно». Мне падабалася, як Быкаў падае афіцэра Сахно, які кідаў салдат, каб узяць нейкую «высотку», не звяртаючы ўвагі на тое, што імкнуцца узяць яе — толькі губіць салдат, якія прэцістаяць з вінтоўкамі немцам, узброеным аўтаматамі.

У часы акупацыі, калі я пісаў партрэты нямецкіх афіцэраў, яны казалі мне, што савецкія салдаты лепшыя ў свеце, але толькі пасля нямецкіх, а вось афіцэры нічога не вартыя, калі амаль абяззброеных салдат кідаюць супраць шквалу агню аўтаматычнай зброі. Я ўважліва слухаў афіцэра вермахта, а гэта не тое самае, што СС або СД, яны прафесіяналы-вайскоўцы, іх трэба слухаць — праўду гавораць.

А вось Быкаў бачыў усё і пісаў без прыхарошвання. Да Быкава і пасля яго ніхто не пісаў пра вайну так праўдзіва, ён не азіраўся па баках, што скажа той ці іншы «аўтарытэт», як трэба пісаць пра вайну.

Зараз дзіву даешся, як вытрымаў Васіль Быкаў гэты шквал агню абразы і праклёну ў бок яго самога і ягонай творчасці. Мабыць, не фізічная моц дапамагала яму выратавацца, а духоўная правата ды той дзіўны чалавек і паэт Твардоўскі, які і сам быў ахвяраю сталінскага тэрору ў літаратуры.

Калі я пісаў гэтыя радкі сваіх успамінаў пра Васіля Быкава, да мяне падышоў мой сын Генрых і спытаў: «А ці ведаеш ты пра Быкава прамову на з'ездзе пісьменнікаў у шасцідзесятыя гады?». «Так, ведаю, — адказаў я, — але падрабязнасцей не магу ўспомніць». «Тады слухай. На тым з'ездзе Быкаў выступаў з вялікай прамовай, а на заканчэнне ён сказаў: «Досыць вытоптваць каваным ботам наш літаратурны агарод!»

У гэты час ішоў запіс на плёнку выступлення Быкава ў Доме радыё. Вёў запіс былы студэнт тэатральнага факультэта тэатральна-мастацкага інстытута. Калі скончылася прамова, той, хто запісваў прамову Быкава, хутка яе перапісаў і схаваў у сябе, бо добра ведаў, што абавязкова зараз з'явяцца з КДБ і забяруць увесь цалкам ролік. Так яно і адбылося, але ж прамова пайшла па руках усіх, хто падзяляў смелыя думкі Васіля Быкава.

Быкава слухаюць, за ім ідуць людзі, яго любіць народ.

Малюнак аўтара.

# ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ І МАРК ШАГАЛ: ПАРАЛЕЛІ ЛЁСУ І ТВОРЧАСЦІ



Я.Драздовіч. Аўтапартрэт «Трыглаў».



Я.Драздовіч. Са сьвету з навукай. 1944.



Я.Драздовіч. Дыван. 1937.



Я.Драздовіч. Успаміны на руінах. 1944 — 1945.

*Хачу параўнаць двух мастакоў. Няўрымслівага дзісенскага дзівака Язэпа Драздовіча, з яго летуценнямі пра Сусвет, які сканаў у самоце, і сусветнавядомага віцябляніна Марка Шагала, які ўсё жыццё мроіў пра пакінуты родны горад. Што іх яднае? У жыцці амаль нічога. Толькі час і радзіма — Беларусь. Усяго год падзяліў іх нараджэнне на свет. Лёс наканаваў долю мастака і прызначыў кожнаму свой шлях. Абодва ў творчасці прадэманстравалі вялікае пачуццё сыноўняй ласкі да сваёй Радзімы. Толькі ў той час у палітычнай рэчаіснасці не было яе канктрэтнага наймення, і таму для Драздовіча яна была Беларуссю, а для Шагала — расійскай правінцыяй. Аднак якія б не былі розныя вобразы Бацькаўшчыны, створаныя гэтымі мастакамі, яны маюць адзіны назоў: Віцебшчына. І жывуць тут нашчадкі іх спадчыны без яснага ўсведамлення пра свае правы на яе, бо праўда пра мастакоўскія здабыткі на нашу радзіму прыйшла акурат напрыканцы стагоддзя. Напэўна, з гэтага часу постаці мастакоў і памяць пра іх пачалі супольнае жыццё ў культурнай традыцыі Беларусі.*

У творчасці час таксама іх яднаў і межаваў, ставіў перад кожным патрэбу абнаўлення мастацкай традыцыі свайго народа адпаведна культуры XX стагоддзя. Згодна з гэтай патрэбай, М.Шагал звярнуўся да міфалагічных часоў габрэйскай гісторыі, а Я.Драздовіч — да беларускай старасвеччыны, яе напаўразбураных і перайначаных помнікаў. Змест гістарычнай традыцыі стаў зместам іх асабістай творчасці: паставіў асобу Шагала на ўзровень біблейскіх прарокаў, а Драздовіча — побач са славутымі асветнікамі Беларусі. Пачуццё неабходнасці рэтраспектыўнай рэфлексіі іх яднала, яе вынікі іх межавалі. Поўнілася гэтая рэфлексія жыццёвымі вобразамі, народжанымі Віцебшчынай, яе рэчаіснасцю. Беларуская прырода ўвайшла ў касмічныя кампазіцыі Язэпа Драздовіча: гарадскія краявіды Марка Шагала спалучылі прыкметы Віцебска і Парыжа. Празаічны мястэчковы побыт робіцца крыніцай выяўленчых матываў быційнага сузірання Шагала; побыт вёскі, яе фальклор і архітэктура наваколля запалянілі трапяткое мастакоўскае даследаванне Драздовіча, абудзілі яго касмічна-футуралагічныя візіі. Для абодвух нізінны пласт народнай культуры быў зыходнай пазіцыяй у творчых памкненнях.

Пошукі нацыянальна-адпаведных формаў выказвання ў мастацтве характарызуюць усю еўрапейскую культуру таго часу, але ў кожнага народа яны здзяйсняліся ў розных гістарычных варунках. Падзел Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі знішчыў усе нацыянальна-культурныя інстытуты беларусаў, разбурыў кагальную сістэму самакіравання ўсходнееўрапейскага габрэйства. Умовы Расійскай імперыі, дзяржавы, не заклапочанай развіццём нацыянальных культур, для беларусаў і габрэяў былі блізкімі з розніцай у тым, што габрэйская культура мела вялікія колы фундатараў, высілкі ж беларускай інтэлігенцыі амаль нікім не падмацоўваліся. Талент Марка Шагала вельмі рана стаў усведамляцца як нацыянальная каштоўнасць, што забяспечыла яму прафесійную падрыхтоўку і шчаслівае жыццё нават на чужыне. Творчасць Я.Драздовіча пасля кароткага часу навучання ў Вільні і творчай працы ў асяродку беларускай інтэлігенцыі ўсе астатнія гады была сацыяльна незапатрабаванай. Мастак быў змушаны вярнуцца ў народную стыхію, у стан вандроўнага рамесніка, шукаць паратунку ў летуценнях пра Сусвет. Пачуццё болю за бядоты і ганенні свайго народа нарадзіла ў творах М.Шагала вобраз бяздомнага старога з торбаю за плячыма. Бяздомнасць Я.Драздовіча была наканаваным вобразам яго жыцця і стала метафарай занядбанасці сапраўднай беларускай традыцыі на той час.

Творчасць мастакоў стылістычна процілеглая, але мае кропкі сутыкнення. Яна амаль цалкам падпарадкавана фантазіі і мроям і, адпаведна арыентацыі на народную культуру, нясе рысы наіўнасці і ўмоўнасці. Аднак сваю стылістычную мову М.Шагал здабыў праз творчую перапрацоўку ўсіх магчымых на той час мастацкіх плыняў, а Я.Драздовіч толькі паспеў увайсці ў прафесійнае мастацтва праз браму мадэрна, а потым, абмежаваны ў сродках, быў змушаны вынаходзіць новыя формы самавыказвання. Непрадбачна для сябе і неўсведамляючы эстэтычных вартасцяў сваёй дзейнасці, Я.Драздовіч на паўстагоддзя раней сусветнага мастацкага вопыту пачаў ажыццяўляць перформансы, праз якія даводзіў вяскоўцам астранамічныя веды і свае касмаганічныя гіпотэзы. Стылістычны прымітывізм Шагала мае вытанчаную аздобу і ўскладнёную зашыфраванасць, летуценнасць Драздовіча схавана за рэалістычнай формай і яе простымі прыёмамі пераканаўчасці. Ствараючы мастацкі вобраз, Шагал наўмысна будаваў сітуацыю абсурду, трызнення, парушаючы звыклую кампазіцыю, сычыў яе прастору несумяшчальнымі падзеямі ў часе. Драздовіч, наадварот, усе свае сны і мроі падпарадкаваў здароваму сэнсу ды вядомым яму навуковым фактам і ўвасабляў іх у даходлівай форме натурнай замалёўкі. Толькі ж фантастыка сну, узнёсласць думкі заставаліся ў першаснове вобразу і рабілі яго несапраўдным, прыдуманым. Шагал жыццё ператварыў у сны, Драздовіч сны ўзводзіў у рэчаіснасць.

Неабсяжны пласт народнай культуры ў сваім развіцці-руху мае дзве тэндэнцыі: ад карнавальнай святочнасці, гратэску да ідэалізацыі будзённасці, надання ёй красы і ўзнёсласці. Калі, зыходзячы з гэтых пазіцый, параўноўваць творчасць нашых мастакоў, то міжволі прыходзіш да высновы, што гратэскава-абсурдныя цудатворчыя вобразы Шагала з'яўляюцца ўвасабленнем першай тэндэнцыі, а рамантычна-ідылічныя карціны-мроі Драздовіча дэманструюць прыкметы другой. Відавочна, што прафесіяналізм М.Шагала праявіўся ў глыбокім разуменні і ўмелым выкарыстанні сродкаў наіўна-прымітывісцкай творчасці; сапраўдны наівісцкі індывідуалізм Драздовіча стаў прычынай яго паступовага набліжэння да прафесійнай школы і адначасовых сувязяў з народнай эстэтыкай.

Прысутнасць у творчасці кожнага з іх яскрава акрэсленых суадносін з народным мастацтвам робіць мастакоў выразнікамі ідэалаў сваіх народаў. Творы Шагала напоўнены хасідскай містыкай, яе ўсеахопным пачуццём радасці і цуду жыцця. Незалежна ад вельмі індывідуальнага і нязвыклага выказвання сэнсу, яго творчасць традыцыйная па зместу, бо зарыентавана на міфалогію свайго народа і яго калектыўныя архетыпы. Рысы адухоўлення ўсяго жывога і нежывога ў творчасці Драздовіча таксама паходзяць ад народнага пантэістычнага светапогляду, які захаваўся з часоў паганства, але яшчэ звязаны з яго асабістымі схільнасцямі да містыкі і вопытам астральных вандровак у снах. Яго аповедныя і выяўленчыя творы пра жыццё на Месяцы, Сатурне, Марсе і іншых планетах адлюстроўваюць звычаі вяскоўца з яго простымі і разумнымі патрабаваннямі дабра і прыгажосці, усенароднага яднання дзеля ідэальнага існавання ў Прыродзе.

Вобразнае ўвасабленне містычнага зместу рэлігійнага вучэння хасідаў у Шагала мае эстэтычны сэнс і цалкам належыць мастацкай творчасці. Дзейнасць Драздовіча дэманструе сінкрэтызм веры, навукі, мастацтва і нясе ў сваёй аснове жыццёвую еднасць. Шагал жыў і ствараў мастацтва, Драздовіч марыў пра мастацтва і ствараў сваё жыццё па яго ўзорах.

Разуменне свайго артыстычнага таленту мастакі пакінулі ў аўтапартрэтах. Драздовіч, увасобіўшы сябе адразу ў трох іпастасях — мастака, мысляра і пісьменніка, паказаў шматграннасць сваіх захапленняў і, напэўна, галоўную сваю рысу — улюбёнасць у творчасць увогуле. Шагал намаляваў сабе сем пальцаў на руцэ, сцвярджаючы тым разуменне сакральнасці творчага працэсу і сваю прыхільнасць да цудаў. Для Драздовіча творчасць —гэта пошукі праўды і красы, сродак жыцця, для Шагала — шчаслівы божы дар і найкаштоўнейшы скарб. Для абодвух яна была жыццёвай неабходнасцю.

Людміла ВАКАР.
г.Віцебск.



М.Шагал. Аўтапартрэт з сямю пальцамі. 1912 — 1913.



М.Шагал. Стары Віцебск. 1914.



М.Шагал. Закаханыя і рыба.



М.Шагал. Музыкант. 1912.

# СЕРП ЖНЕ ЗБАЖЫНУ...

Я ішла па ўтульнай і невялікай (ці, прынамсі, суразмернай майму ўспрыманню) зале музея, узіраючыся ў карціны. Іх было чатырнаццаць, за тыя колькі хвілін да адкрыцця выставы, яшчэ непазначаных этыкеткамі, але пералічаных у каталозе. І, падпарадкаваўшыся ці то спрадвечнаму чалавечаму памкненню да «называння» і «класіфікавання», ці то хітраватаму «ходу» аўтараў, я ўяўна будавала рад суадпаведнасцей, быццам вырашаючы школьную алгебраічную задачу, састаўляла функцыянальны рад. Зрабіла дзве (усяго ці ажно?) памылкі...

Каталог выставы Віктара Маркаўца і Алеся Разанава ўтрымліваў два невялікія канцэптуальныя тэксты. Рызыкну падаць іх цалкам, каб чытачам стала зразумела, што мелася на ўвазе пад назвай вернісажу «Ісвы» і «Функцыянальныя кантэксты»:

«Ісвы», альбо экзістэнцыі, — мастацкае даследаванне з’яў, якія ўласцівы чалавечаму існаванню" і якія, зрэшты, абумоўліваюць прыроду гэтага існавання.

Яны не на паверхні, і нават калі яны паяўляюцца ў чалавечых паводзінах; псіхіцы, міміцы, яны, тым ня менш, застаюцца невідавочнымі.

Нас у дадзеным выпадку цікавіць не псіхалогія, а анталогія гэтых з’яў, іхні механізм, і каб мы мелі магчымасць сустрэцца з імі сам-насам і зразумець іх, яны згаджаюцца ўвасобіцца ў «ІСВАХ».

У дадзенай экспазіцыі ў ісвах увасобіліся «Страх», «Сумненне», «Згода», «Смага», «Развага», «Радасць», «Магчымасць», «Туга».

Цытую далей: «Прылады, якімі мы карысталіся, — працяг нашых здольнасцяў і магчымасцяў, кожная з іх выконвае сваю — і адначасова нашу — функцыю: піла спілоўвае дрэва, сякера расколвае яго на паленне, рыдлёўка выкопвае яму, серп жне збажыну...

Форма прыладаў выяралася і ўдакладнялася вякамі, але галоўнае ў іх не іхні выгляд, не яны самі, а тая функцыя, якая прымусіла іх стаць такімі, якімі яны ёсць, і спраўджваць якую яны закліканы.

У сваім функцыянальным кантэксце прылады становяцца сутнасцямі, мы іх на карцінах не бачым, але затое ўвесь адпаведны функцыянальны кантэкст сведчыць пра іх і набывае іхняе сутнаснае аблічча».

«Серп», «Калёсы», «Вагі», «Рыдлёўка», «Піла і сякера», «Цвікі». На палотнах не выявы гэтых прадметаў, а след іх дзеяння, руху, уздзеянне на n-вымяральную прастору, след, які застаецца і пасля, у які хутчэй «ідэалізуецца», чым «матэрыялізуецца» тое, што здзейснена, ці здзейсніць не здолелася: сутнасная паўната ці пустэча. Кожная з карцін мае своеасаблівы код, кожная патрабуе свайго ўваходжання, кожная павінна быць адкрыта ўнутранаму а не адно візуальнаму позірку, як, напрыклад, толькі ўнутраным позіркам можна ўбачыць сутнасны партрэт зерня, кінутага ў зямлю, ягонае пераўвасабленне ў рунь, сцеблі... Так, як, мажліва, бачыў Уладзіслаў Хадасевіч, аўтар славутага верша «Путём зерна».

У кнізе «Tertium Organum», якая пабачыла свет у 1911 годзе, выдатны расейскі мысляр Пётр Успенскі пісаў: «Для звычайнага «пазітывізму» здаецца ў вышэйшай ступені наіўным гаварыць пра пакупную сілу манеты асобна ад манеты; пра энергію слова асобна ад гуку, пра змест кнігі асобна ад кнігі і г.д. Мы ўсе ведаем, што на самапраўдзе пакупной сілы, энергіі слова ці зместу кнігі не існуе, што гэтымі паняццямі мы толькі вызначаем шэраг з’яў, вядомым



«Радасць»

чынам злучаных з манетай, са словам, з кнігай, але ў існасці абсалютна асобных... Мы бачым у рэчах, акрамя знешняга, нешта ўнутранае. Ведаем, што гэта ўнутранае складае непарыўную частку рэчаў, звычайна іх галоўную існасць. І зусім натуральна мы пытаемся ў сябе, дзе знаходзіцца гэта ўнутранае і што яно сабой уяўляе. Мы бачым, што гэта ўнутранае не заключаецца ў нашай прасторы...»

Алесь Разанаў і Віктар Маркавец шукаюць і знаходзяць уласныя інтэрпрэтацыі вечных тэм і робяць іх сутнасцямі. Кожная карціна, з’ядноўваючы і адкрываючы, здавалася б, несумяшчальныя рэчы, творыць свой сэнсавы кантэкст, сугучны ўспрыманню сучаснага чалавека, звыклага да таго, што новыя плыні ў навуцы і мастацтве ўсё часцей узнікаюць на сумежжы. (Дастаткова згадаць шматлікія назвы і тэрміны, складзеныя з двух ці нават болей слоў.) Два патокі, дзве плыні, два віды творчасці, дзве «парафіі», дзве плоскасці, скрыжаваўшыся ў прасторы як схілы гатыцкага даху, далі вострую і стромкую лінію, вызначыўшы якую тыя ж самыя плоскасці працягваюцца да нябачнай бясконцасці. Два творцы, паэт і мастак, нейкімі гранямі свайго светаўспрымання судакрануліся і ствараюць, бо, як сказаў Алесь Разанаў, асноўнае ў мастацтве — не «я, не той, хто стварыў, а тое, што створана». Творцы нават думаюць пра большую творчую суполку падобнага кшталту, аб’яднаную на іншых, не матэрыяльных, не прафесійных, а менавіта творчых (даруйце таўталогію) прыкметах, бо на пасяджэннях сённяшніх саюзаў і секцый не адбываецца зацікаўленай, у нечым інтымнай, у нечым запаветнай размовы. А таму яднанне паэта і мастака, якім цікава працаваць разам, і ёсць, магчыма, ячэйка будучага ідэальнага саюзу, які па аналогіі з СНД аўтары выставы прапанавалі назваць СНТ — «Саюз незалежных творцаў». Віктар Маркавец удакладніў гэтае паняцце так: «Калі супрацоўнічаюць прадстаўнікі розных творчых прафесій, то адбываецца перагляд звыклых, так бы мовіць, шкал разумення, якія ў нашых вузкіх цэхах існуюць дзесяцігоддзямі. Гэта мае перспектыву. Мы будзем рады, калі наш прыклад зацікавіць іншых, бо творчасць як чалавечая якасць — з’ява цэльная і непадзельная».

Яшчэ адна выбітная культурніцкая падзея была непасрэдна злучаная з выставай «Ісвы» і «Функцыянальныя кантэксты». Праз тыдзень па адкрыцці, нібы вызначаючы medium экспазіцыі, ладзілася канферэнцыя-абмеркаванне. Як кажуць, сабралася вузкае кола шырокавядомых людзей, якія ўласна і бяруць удзел у фармаванні грамадскай думкі пра тое ці іншае з’явішча: мастакі, філосафы, мастацтвазнаўцы, журналісты, практычна ўсе знаёмыя паміж сабой (хаця б у твар) у нашым невялікім (што тычыцца «мыслярскай праслойкі») Мінску. Сабраліся калегі па цікаўнасці да мастацтва, каб паспрабаваць у жывой дыскусіі, творча выпрацаваць новыя ідэі, каб абмеркаваць думкі, часам супярэчлівыя і супрацьлеглыя адна адной, што ўзніклі ў сувязі з экспазіцыяй у інтэлектуальных колах. Вёў пасяджэнне мастацтвазнаўца Яўген Шунейка. Мне здаецца, што многія выказванні, якія прагучалі падчас абмеркавання, маюць вельмі шырокі сэнс.

Алегу Бембелю, як ён назваў сябе, «рыфмару», думаецца, што «разбяганне творчых галактык на Беларусі ўжо даўно дасягнула крытычнай кропкі. Недзе пасярэдзіне 70-х ледзь заўважна пачаўся адва-



«Страх»

ротны працэс — вяртанне да аскепкаў боскай гармоніі. Творчыя грані, увасобленыя ў творчых саюзах, былі самаісныя і цэласнасць культуры распалася. Зблiжэнне прафесійнай філасофіі, паэзіі, мастацтва мусіць адбывацца ў жанрах, падобных да паказанага на выставе».

Доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан назваў экспазіцыю «сапраўдным адкрыццём беларускага мастацтва XXI стагоддзя». «Я традыцыяналіст, — працягваў ён, — і не заўсёды прымаў тое, што звычайна запазычвалася без якіх-кольвек фармальных змен з заходнееўрапейскага мастацтва. Усякае перайманне для мяне нецікава па сутнасці. А ў гэтых работах ёсць традыцыя, якая мне блізкая, якую я бачу перш за ўсё ў асацыятыўнасці, тут кожны твор мае асацыяцыю з вопытам беларусаў. Гэтыя карціны пацвярджаюць, што падзел культуры на духоўную і матэрыяльную ёсць схематызм, што матэрыяльная культура з цягам часу робіцца духоўнай».

Гутарку працягвала філосаф Ларыса Чарнышова. Апануючы папярэдняму прамоўцу, яна заўважыла: гэта канцэпцыя не носіць нацыянальнага характару. Наадварот, і колер, і геаметрычныя кампазіцыі розных прац нагадваюць розныя матывы: блізкія да піфагарыйскіх, ці паўднёва-ўсходніх, ці дарыйскіх, ці ісламскіх, ці кітайскіх. «Нам не варта запіхваць саміх сябе ў няпэўныя племянныя рамкі, гэта было б вялікай шкодай для беларусаў на даным этапе жыцця. Пакуль што наша мелодыя яшчэ ў



«Серп»

сусвеце не пачута і пры слове «беларус» не ўзнікае пэўны вобраз, нейкі сімвал, як пры слове «егіпцянін» ці нават «амерыканец». Для Беларусі неабходна, каб ейны голас быў пачуты ўласным народам, каб галасы сусвету загучалі тут. І аўтары выставы знайшлі такую канструктыўную, стваральную форму. Гэта вельмі дзіўная з’ява ў наш час, калі людзі знаходзяць паразуменне, каб разам нешта рабіць... Нам прасцей прааналізаваць нейкі твор, тое, што зроблена рукамі і розумам, і вельмі цяжка прасачыць той імпульс, той імпэт, энергію, якая пасылае тварыць ці разбураць. Гэтая выстава — з’ява прагрэсіўная, «прагрэс» па-латыні — крок наперад, а не да вытокаў, бо да вытокаў клікалі напрацягу ўсёй гісторыі. Яшчэ Платон заклікаў вяртацца ў Егіпет».

Крытык Пётра Васілеўскі адзначыў, што пакуль гэта выстава яшчэ не стала фактам эмацыянальнай памяці, «часткай легенды, якой, напрыклад, з’яўляецца «Чорны квадрат» К.Малевіча». Гэтыя рэчы крытык успрыняў усяго як цікавую спробу правакацыі, калі мастак і паэт сабраліся і паспрабавалі штосьці зрабіць.

Мастак Яўген Кулік наогул адчуў пэўную другаснасць канцэпцыі і выяўлення.

Гучалі розныя думкі і меркаванні. Яўген Шунейка паспрабаваў падсумаваць «выпрацаваную» тэрміналогію ў пэўны шэраг: асацыятыўны традыцыяналізм, рыфмамалярны дуалізм, мастацкая правакацыя, другаснасць, ісва-відарызм... Пры ўсім «раскідзе» думак і меркаванняў відавочная іхняя навізна, што насычае інфармацыйнае поле новымі лініямі, дарэчы, насычае вельмі пакуль што ненасычанае поле... Спадзяёмся,



«Піла і сякера»

што наступная выстава Алеся Разанава і Віктара Маркаўца прынясе новыя цікавыя загадкі.

У мастацтве няма кодаў, зададзеных раз і назаўсёды, бо творца творыць не адно творы, але і правілы гульні.

Галіна БУЛЫКА.

# «Я — ІВАН, ТЫ — АБРАМ»

Мастацкі фільм пад такой назвай створаны ў сумеснай вытворчасці фірмамі «Ашэт-прэм’ерс» (Францыя) і «Вітт» (Беларусь). Стужка ўдастоена спецыяльных прызоў на сёлетнім кінафестывалі ў Канах. Гэтай падзеі была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая нядаўна адбылася ў Мінску.

Прэзідэнт акцыянернага таварыства «Вітт» Валерый Мацулевіч і выканаўчы прадзюсер фільма Ігар Поршнеў расказалі журналістам пра абставіны стварэння кінастужкі і пра тое, які рэзананс выклікала яна ў Францыі.

... Аўтар сцэнарыя і рэжысёр фільма Іяланда Заберман — дачка польскіх яўрэяў, якія пераехалі ў Францыю пасля вайны. У пошуках натуры яна разам з калегамі аб’ездзіла Польшчу, краіны Балтыі, Расію, Беларусь, Украіну. Выбар урэшце выпаў на Вінніцу, дзе захавалася многае з даваеннага побыту, звычаяў, дзе ўсё яшчэ гучыць ідыш.

У працэсе работы ў французскіх кінематаграфістаў узнікла патрэба ў супрацоўніцтве. Яны звярталіся за дапамогай на розныя кінастудыі Расіі і Украіны, на «Беларусьфільм». Сталае супрацоўніцтва, аднак, наладзілася толькі з фірмай «Вітт» ("Беларусьфільм" прадаставіў частку тэхнічнай базы — персанал, некаторыя віды абсталявання). У здымках фільма ў Вінніцкай вобласці ўдзельнічала група ў 60 чалавек. Здымаліся ў ім і вядомыя акцёры — такія, як Аляксандр Калягін, Алег Янкоўскі, Ралан Быкаў, Даніэль Альбрыхскі, і зусім невядомыя — напрыклад Рома Александровіч, які выканаў ролю хлопчыка Абрама. У фільме гучыць польская, руская, цыганская мова і ідыш.

Спецыяльнае журы, складзенае з 15 маладых інтэлектуалаў Францыі, прысудзіла ў Канах свой прыз фільму Заберман. І яшчэ адзін прыз быў уручаны стваральнікам стужкі «Я — Іван, ты — Абрам» — ад імя гільдыі французскіх кінакрытыкаў.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі паведамілі, што кінастужка ўдзельнічае ў асноўным конкурсе міжнароднага кінафестывалю, які праходзіць зараз у Маскве. А прэм’ера для беларускіх гледачоў урачыста адбудзецца ў Мінску ў верасні. Ужо ідзе падрыхтоўка.

Што ж, пачакаем. Назва ў фільма простая і запамінальная...

В.Т.

КІНО



Фота Бенуа БАРБ'Е (Францыя).

# ВАЙНА ВЯДОМАЯ І НЕВЯДОМАЯ

*Для беларусаў вайна з фашызмам пачалася не ў чэрвені 41-га, а, бадай, амаль на два гады раней — 1 верасня 1939 года. Фашысцкія бомбы ляцелі на Гродна і Баранавічы, сяляне Заходняй Беларусі, мабілізаваныя ў польскае войска, гінулі на Балтыйскім узбярэжжы, пры абароне Варшавы, Модліна, Брэста і Кобрына. Аднак пра гэтую старонку вайны мы ведаем мала, як і пра ганебныя сумесныя парады чырвонага і карычневага воінства пад штандарамі і выявамі свастыкі і сярпа з молатам.*

*Неўзабаве юнакі Беларусі трапілі пад кулі фінскіх снайпераў-"зязюль" — падчас прарыву лініі Манэргейма, а на радзіму сталі прыходзіць першыя «пахаронкі». І пра гэтую брудную вайну мы таксама ведаем няшмат.*

*Два гады сяброўства з фашызмам (калі савецкія газеты свядома замоўчвалі прасоўванне фашысцкай навалы ў розных частках Еўропы) у першыя месяцы Вялікай Айчыннай прынеслі нашаму народу незваротныя і нечуваныя страты. Яшчэ не паспелі астынуць рэйкі ад апошняга эшалона з нафтай і харчаваннем, які прайшоў праз Брэсцкую чыгунку як эканамічны падмацунак III рэйху, а на практычна безабаронную Беларусь пасыпаліся бомбы, снарады і міны, неба засцілі крыжы, аздобленыя свастыкай. «Сталінскія сокалы» не змаглі абараніць ні заходнюю Беларусь, ні Мінск, і немцам дасталіся вялікія запасы зброі, адзення і правіянту.*

*У жніўні ўся тэрыторыя Беларусі была захоплена, мільёны людзей засталіся сам-насам з ворагам, які бязлітасна гвалціў і забіваў не толькі вайскоўцаў, але і простых мірных жыхароў, праводзіў тактыку генацыду ў дачыненні да яўрэяў і цыган.*

*Ілюзіі ў той частკі беларускага насельніцтва, якая яшчэ памятала першую нямецкую акупацыю 1915 — 1918 гадоў і спадзявалася, што замест бальшавікоў і НКВД прыйшла больш памяркоўная «еўрапейская» ўлада, хутка развеяліся пры сутыкненні з эсэсаўцамі і гестапа.*

*Каб ацалець, каб выжыць у гэтай вынішчальнай вайне, тысячы людзей падаліся ў лес, да партызан, сталі народнымі мсціўцамі.*

*Што мы ведаем пра тыя жахлівыя, шматпакутныя і гераічныя дні нашага народа? З аднога боку, працы таварыша Цанавы і яго лепшых сяброў і паплечнікаў. А з другога — глыбока псіхалагічныя, кранаючыя сваёй суровай праўдаю ваеннага жыцця-быцця аповесці і раманы Васіля Быкава, балючыя старонкі Хатынскай аповесці Алеся Адамовіча. Зусім нядаўна беларускі чытач змог пазнаёміцца з цікавай кнігай польскага даследчыка Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», дзе ўпершыню падаецца іншы, не савецкі і не бальшавіцкі погляд на акупацыю і партызанскую вайну на Беларусі. А колькі яшчэ непрачытаных дзённікаў партызанскіх камандзіраў, напісаных хімічным алоўкам на кепскай паперы, ляжыць у нашых архіўных сховішчах!*

*Сёння ўвазе чытачоў «Культуры» прапануецца гістарычны нарыс Уладзіміра Кузьменкі. Аўтар упершыню ў нашай рэспубліцы стаў даследаваць ролю беларускай інтэлігенцыі ў арганізацыі і стварэнні партызанскага руху. Цяжка, вельмі цяжка ішоў працэс напісання і асабліва абароны яго кандыдацкай дысертацыі, бо вынікі ягонае працы не ўпісваліся ў стройны міф «рабоча-сялянскага» партызанскага руху на Беларусі.*

*Беларускія настаўнікі, навукоўцы, інжынеры, тэхнікі не толькі займаліся рамонтам партызанскай зброі, але ўмудраліся нават вынаходзіць яе новыя ўзоры і з поспехам ужывалі іх на практыцы.*

*Некаторыя вырабы з арсеналаў лясных майстэрань былі ўрачыста прадэманстраваны падчас знакамітага парада партызан, што адбыўся на вуліцах вызваленага Мінска ў ліпені 44-га.*

*Розным быў лёс яго ўдзельнікаў. Шмат хто не дажыў да перамогі, загінуў у Польшчы, Прусіі, Памераніі ці Сілезіі. Некаторыя не вярнуліся з далёкіх палёў Маньчжурыі ў жніўні 1945 года. Ды дзе толькі не гінулі беларускія хлопцы і дзецюкі за чужыя для іх інтарэсы. Дастаткова ўспомніць той жа Афган...*

*Таму мы хочам пажадаць прыхільнікам новага дагавору аб так званай «калектыўнай бяспецы», каб Беларусь займела ад яго столькі год спакойнага жыцця, колькі нейтральная Швецыя ці Швейцарыя, а тыя шэдэўры партызанскай «абаронкі», якія мы бачым на ілюстрацыях да матэрыялу У.Кузьменкі, сталі апошнімі ўзорамі зброі, якую ўжывалі па сваім непасрэдным прызначэнні.*

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## І «САМАРОБКІ» МАЮЦЬ СІЛУ

У наступным ліпені споўніцца 50 гадоў, як гітлераўскія акупанты былі выгнаны з беларускай зямлі. Але і праз паўстагоддзя адкрываюцца новыя старонкі нашай ваеннай гісторыі, праз напластаванні часу праступаюць абліччы людзей, якія дзеля справы вызвалення рабілі такое, што здзіўляе і ўражвае нават сённяшняга адукаванага і дасведчанага чытача.

Пра гераізм і талент партызанскіх збройных майстроў, пра подзвіг тэхнічных спецыялістаў Беларусі, якія змагаліся з фашыстамі на акупаванай тэрыторыі, і хацелася б сёння сказаць колькі слоў...

* * *

Вядома, што партызанам і падпольшчыкам Беларусі ўвесь час бракавала зброі. Хоць яны і збіралі настойліва тое, што засталося на палях і ў лясах пасля адыходу ў 1941 годзе на ўсход Чырвонай Арміі, здабывалі трафейную ў сутычках з гітлераўцамі, шмат што перападала з-за лініі фронту, але «голад» на зброю быў пастаянным. Змагары з фашызмам былі вымушаны старанна берагчы, а пры неабходнасці рамантаваць кожную агнявую адзінку. У рэшце прыйшлі да думкі (архіўныя дакументы паказваюць, што ў многіх месцах адначасова, але, безумоўна, незалежна адзін ад аднаго) аб магчымасці і неабходнасці майстраваць зброю самім.

Сярод барацьбітоў было нямала адукаваных, добра падрыхтаваных людзей — інжынераў, тэхнікаў, механікаў, выкладчыкаў навуковых і прыродазнаўчых дысцыплін. Дзякуючы іх ведам і ўменню вытворчасць зброі хутка набыла размах. Партызанам хацелася мець як мага больш аўтаматычнай зброі. І майстры ў неверагодна цяжкіх умовах ляснога існавання, нястачы самага неабходнага, ва ўмовах варожых блакад і экспедыцый змаглі наладзіць яе выпуск. Ёсць звесткі, што адзін з першых партызанскіх аўтаматаў — самаробны ППШ — быў зроблены ў партызанскай брыгадзе «Разгром» у Мінскай вобласці. Змайстраваў яго рабочы мінскага дрожжавага завода «Пралетарый» Пятро Чыгрынаў летам 1942 г. У 1943 г. вытворчасць аўтаматычнай зброі была разгорнута ў шмат якіх месцах. Пра гэта яскрава сведчыць калекцыя самаробных пісталетаў-кулямётаў, якая зберагаецца ў Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Там сабраны экспанаты, якія «нарадзіліся» ў майстэрнях брыгад і атрадаў, што дыслакаваліся на тэрыторыі сямі абласцей Беларусі — Баранавіцкай, Вілейскай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай і Пінскай. У лясных зямлянках, на сціплым прымітыўным абсталяванні майстры-збройнікі стваралі рэчы вялікай сілы. Ёсць шмат выказванняў партызан, якія лічылі, што іх самаробныя аўтаматы ў баі дзейнічаюць не горш, чым тыя, што рабіліся на заводах. Высока ацэньвалі іх і спецыялісты ў Беларускім штабе партызанскага руху — туды «самаробкі» пасылаліся на экспертызу. Колькасць, ды і якасць выраблених аўтаматаў выклікае павагу. Напрыклад, толькі ў брыгадах імя С.М.Будзённага (Пінскае злучэнне) і імя К.Я.Варашылава (Мінскае) іх было зроблена больш чым па 100 у кожнай, у брыгадзе «Чэкіст» Магілёўскай вобласці — 122, у брыгадзе «Разгром» Мінскай вобласці — 133.



## СПРАВЫ ІНЖЫНЕРА СЧАСЛАЎСКАГА



У калекцыі, пра якую мы згадвалі, знаходзяцца два аўтаматы, выробленыя ў майстэрні Першага партызанскага атрада брыгады «Чэкіст» Магілёўскай вобласці. Гісторыю іх стварэння дапамаглі высветліць дакументы з Нацыянальнага архіва Беларусі — дзённік кіраўніка майстэрні, інжынера з Мазыра Пятра Счаслаўскага і справаздача камандавання атрада, іншыя архіўныя паперы.

У гэтым атрадзе праца збройных майстроў разгарнулася ўжо на пачатку лета 1942 г. У майстэрні ў вялікай колькасці ўзнаўляліся авіяцыйныя кулямёты (іх знялі з самалётаў, якія згарэлі ў часе варожай бамбёжкі на савецкім аэрадроме, што быў недалёка). Тут таксама рамантавалі гарматы. А кіраваў гэтымі справамі інжынер Счаслаўскі. Неўзабаве ён зразумеў, што ў майстэрні атрада можна было б рабіць аўтаматычную зброю. 29 сакавіка 1943 г. інжынер Счаслаўскі запісаў у сваім дзённіку: «Атрад атрымаў шмат патронаў да ППШ... У мяне ўзнікла ідэя выпускаць аўтаматы ў сваёй майстэрні. Прыйшоў у зямлянку і абмеркаваў прапанову з майстрамі, выклаў тэхналагічны працэс вырабу асобных вузлоў канструкцыі...»

Старанна вывучыўшы будову ППШ, збройныя майстры да дробязяў прадумалі выраб кожнае дэталі. Смела выкарыстоўваліся падручныя матэрыялы. Вырашылі, што затвор выкуюць з калёснай восі, кожух аўтамата зробяць з вобада ад падбітай нямецкай бронемашыны, ствол возьмуць ад няспраўнага кулямёта... Першы аўтамат быў зроблены хутка, за некалькі дзён.

*З дзённіка П.І.Счаслаўскага:*

«Нараніцу 30 сакавіка 1943 г. я паслаў А.С.Азаронка ў камандзіроўку па матэрыялы. Нікалаеў і Ісадчанка яшчэ ў прыцемках разабралі калёсы, выцягнулі вось і пачалі каваць. Да вечара быў выкаваны затвор і на большую палову апрацаваны. Азаронак прывёз барабан з-пад малацілкі і вобад ад бронемашыны...

31.III.1943 г. Майстры працуюць над вырабам ППШ № 1 (працуюць 2 чалавекі). Саша ў камандзіроўцы (шукае кулямёты). Поспехі заўважныя...

2.IV.1943 г. ...з нашага аўтамата ўжо зроблены першы выстрал. Колькі радасці, крыку, шумнае гамонкі!.. Зрабілі некалькі адзінкавых выстралаў, потым далі дзве чаргі — механізм працаваў добра. Усе байцы былі ў захапленні.

5.IV.1943 г. Раніцаю прасвідравалі кожух ППШ і зрабілі прыстрэлку па цэлі. Б'е добра і ў аўтаматычным рэжыме. У 16.00 выехаў у штаб брыгады, дзе ўсе былі вельмі здзіўлены нашым вырабам...»

З'яўленне першага самаробнага аўтамата сустрэлі ў брыгадзе з велізарным энтузіязмам. Партызаны знайшлі ў брыгадзе і прынеслі ў майстэрню збройнікам кулямётныя ствалы, метал, ціскі, кувалды, напільнікі і іншы інструмент. Збудавалі вялікую зямлянку, размясцілі варштаты, горан, свідравальны станок з ручным прывадам. У майстэрні стала працаваць каля 20 чалавек. Працавалі з уздымам, па 12 і больш гадзін у суткі. Калі цямнела, запальвалі вогнішча, спецыяльна абкладзенае камянямі, і пры такім святле працягвалі работу. Кожны збройнік выконваў пэўную замацаваную за ім аперацыю. Для вырабу дэталяў былі прыгатаваны мадэлі і шаблоны. Гатовая прадукцыя праходзіла тэхнічны кантроль: усе часткі правяраліся на якасць, затым аўтамат збіраўся і прыстрэльваўся, на ім ставіўся год выпуску і нумар.

Гітлераўцы, даведаўшыся аб «лясным збройным заводзе», неаднаразова спрабавалі захапіць яго. Счаслаўскаму і яго таварышам давялося закапаць абсталяванне майстэрні ў зямлю і разам з брыгадай выходзіць з-пад удару. У часе рэйдаў майстэрня перабіралася на «колы». Вандруючы разам з брыгадай, збройныя майстры спраўна выконвалі свае абавязкі — да снежня 1943 г. партызаны атрымалі ад іх 70 ППШ, на 1 лютага 1944 г. — 103, а на момант злучэння з Чырвонай Арміяй (ліпень 1944 г.) — 122 аўтаматы. Пётр Счаслаўскі, на жаль, не дажыў да вызвалення — ён загінуў у баі 16 мая 1944 г., загінуў па-геройску, узняўшы ў атаку штурмавую групу супраць фашысцкага гарнізона ў в.Галошава Талочынскага раёна.

## ПАРТЫЗАНСКАЯ БРАНЯ

Умелыя рукі майстроў ажыўлялі і цяжкую баявую тэхніку, якая засталася ў непрыдатным для эксплуатацыі стане ў лясах ды на балотах пасля адступлення Чырвонай Арміі, альбо захопленую ў ворага.



Шырока выкарыстоўваліся здабытыя такім чынам гарматы. З іх у многіх атрадах былі створаны артбатарэі, а ў Лепельскай, Расонскай і Чашніцкай брыгадах — нават артылерыйскія дывізіёны. Па няпоўных звестках, на кастрычнік 1943 г. партызаны Беларусі мелі на ўзбраенні звыш 500 гармат і мінамётаў.

Вядомы выпадкі выкарыстання і браніраванай самаходнай тэхнікі. Так, напрыклад, у 37-й брыгадзе імя А.Я.Пархоменкі (Мінская вобласць) быў адрамантаваны аснашчаны кулямётам цягач «Камсамолец». Гэтая машына брала ўдзел у многіх баявых аперацыях. У Віцебскай вобласці ў 1-й беларускай брыгадзе ў студзені — верасні 1942 г. было адрамантавана 4 савецкіх лёгкіх танкі, у брыгадзе імя М.В.Фрунзэ — падбіты нямецкі танк, а ў Сенненскай брыгадзе — танк Т-34 і бронемашына. Даволі вядомыя і факты выкарыстання Смаленскім партызанскім палком пры штурме Чарэйскага гарнізона ў Халапеніцкім раёне танкаў Т-34 і Т-26, на якіх перад гэтым уцяклі з Багушэўска савецкія ваеннапалонныя. Цэлы партызанскі бронеатрад дзейнічаў у Ліпічанскай пушчы. Збройныя майстры Ленінскай брыгады Баранавіцкага злучэння восенню 1942 г. паставілі ў строй дзве бронемашыны БА-10 (іх выцягнулі з ракі Шчары) і танкетку Т-27, знойдзеную на балоце. Летам 1943 г. ім удалося адрамантаваць і падбітую на пачатку вайны «трыццацьчацвёрку». Гэтая тэхніка аказала значную дапамогу брыгадзе ў барацьбе супраць фашысцкіх гарнізонаў, у змаганні супраць карных экспедыцый гітлераўцаў.

* * *

Партызанскія «эдысоны», вынаходнікі і змагары сваёй руплівай дзейнасцю ў лясных майстэрнях, самаахвярнасцю і гераізмам у баях з заклятым ворагам набліжалі, як маглі, светлы дзень вызвалення Беларусі. Узнагародай шмат для каго з іх стаўся ўдзел у партызанскім парадзе ў вызваленай беларускай сталіцы. Разам з героямі была і створаная імі зброя — плён чалавечае няўрымслівасці і тэхнічнага таленту.

**Уладзімір КУЗЬМЕНКА.**

*На здымках:*

1. Партызанская гармата.
2. Інжынер Пятро Счаслаўскі.
3. Партызаны з 37-й брыгады імя А.Я.Пархоменкі (Мінская вобласць) на цягачы «Камсамолец».

Вольга ІПАТАВА

# БРАНЗАЛЕТЫ АД БЯЛБОГА

Яшчэ ў часы Вітаўта Вялікага жыла непадалёк ад Крэва купецкая сям'я — муж, жонка і маленькая Ганначка. Неяк пад вечар вярталіся яны з кірмашу, і ўздумаў з імі пажартаваць Лесавік. Высокі, з калматай барадой, кульгавы, гайдаецца ён на дрэвах, выглядае, дзе б і каму зрабіць якое ліха. Дык вось, напусціў мораку на Ганначчынага бацьку злыдзень той Лесавік, і напалохаў коней. Панеслі коні, ударылася фурманка аб корань — і вываліся з фурманкі ўсе трое.

Пакуль ачомаліся, пакуль апрытомнелі — ноч наступіла. Спахапіліся муж і жонка, што некуды знікла іх Ганначка. Крычалі яны, крычалі, гукалі і гукалі, але ніхто не азваўся ні ўначы, ні раніцай. Горка было ім вяртацца дадому — любілі яны сваю маленькую дачку. Але нідзе не знайшлі яе і вырашылі, што схапіў яе воўк або памерла малая ад страху.

Але Ганначка засталася жывая. Доўга ляжала яна без прытомнасці, а калі расплюшчыла вочы, убачыла, што правалілася ў вялікую яму. Як ні крычала дзяўчынка, як ні клікала бацьку і маці — ніхто не адгукнуўся. Лесавік і той знік — мабыць, нецікава было яму дражніць малую.

Плакала ў яме Ганначка, плакала, а пасля заснула. Прачнулася — сонца стаіць высока, зазірае проста ў яміну. І тут ўбачыла дзяўчынка проста перад сабою шырокі ход, нібыта ў пячору. Толькі ход гэты нечым белым выкладзены, ажно свеціцца пад промнямі, ажноззяе. Падумала яна дый пайшла наперад. Ішла, ішла і выйшла на вялікую паляну, а на той паляне — хата. І ўсё навокал ззяе, аж вочы слепіць. Стала дзяўчынка перад хатай, а зайсці баіцца. Раптам з'явіўся на парозе высокі дзядок у белай кашулі, з доўгай барадой.

— Хадзі сюды, Ганначка, не бойся! — паклікаў ласкава.

— Адкуль вы ведаеце, як мяне зваць? — здзівілася малая.

— Я ўсё ведаю. Я ж Бялбог, бацька Перуна. Ці чула ты калі пра Перуна?

— А як жа! У нас сусед увесь час на дзяцей крычыць: «Каб вас Пярун забіў, як вы на мае ялыні лезеце!»

Засмяяўся Бялбог.

— Ну, а што пра мяне чула? У мяне ж яшчэ і другое імя ёсць — Бялун. Ці чула пра дзеда Белуна?

— А як жа! — адказала Ганначка. — Бабулька казку расказвала, што дзед Бялун аднойчы сярод жней з'явіўся з мехам. Папрасіў адну з іх, каб яна яму нос выцерла. Тая скрывілася і адмовілася: «Буду я нос выціраць нейкаму старцу!» А другая падышла, толькі да меха дакранулася — а адтуль золата ды серабро пасыпалася!

Зноў задаволена засмяяўся дзед Бялун.

— Даўно ў вас на зямлі не быў, ажно не забываюць мяне людзі!

І прапанаваў:

— Ну, хадзем, пачастую цябе чым-небудзь.

Зайшлі ў хату. А там — як у казцы! Светла, чыста, посуд блішчасты. І ежа надта смачная — мёд ды сыр.

— А што ты, Ганначка, рабіць ужо ўмееш? — запытаўся дзед.

— Кудзелю прасці. Ткаць — трошкі. А яшчэ ўмею спяваць песенькі.

— Ну дык паспявай!

І пачала Ганначка спяваць. І тыя песні, што ад бабулі чула. І тыя, што маці на зажынках спявала.

І так пайшло кожны дзень — дзяўчынка з ранку ў хаце падмяце, посуд вымые ды дзеду Белбогу-Белуну песні спявае.

— А ці ведаеш, з чаго гэты посуд? — запытаўся аднойчы дзед.

— Не, не ведаю.

— Гэта ўсё з серабра. Адну такую місу прадаць — можна хату купіць.

Падзівіцца на тую місу дзяўчынка, але не кваціцца яна на багацце, нічога не выпрошвае. Не цягнецца да прыгожых місаў ды кубкаў, аднаму радуецца — жывым кветкам.

Час бяжыць хутка. Ссумавалася дзяўчынка па роднай хаце, стала дадому прасіцца. І даў ёй Бялун на развітанне два тоненькія бранзалецікі — на правую і на левую руку. Наказаў, каб да самага замужжа насіла іх не здымаючы.

— А як выйдзеш замуж — адзін аддасі мужу. І што б з ім не здарылася — пра ўсё ведаць будзеш.

А пасля вывеў ён дзяўчынку на лясную дарогу і паказаў шлях дадому.

— Калі не туды пойдзеш — бранзалецік з рукі спусці і глядзі, куды пакаціцца. Але пра цудоўныя якасці іх нікому не кажы...

З тым і прыйшла Ганначка дадому. Паверылі ці не паверылі бацька і маці, што гасцявала яна ў самога Бялбога — дзеда Белуна, але не кпілі з дачкі і бранзалецікі з яе не здымалі. А калі праз тры ці чатыры гады гарэла ад маланкі ўся вёска, толькі іхнюю хату агонь абышоў, нібыта нейкім чароўным колам была яна абведзеная, — паставілі ў бажніцу драўляную постаць Бялбога і на Дзяды і Радаўніцу абавязкова кашу і хлеб перад ім ставілі.

Яшчэ час мінуў, і выйшла Ганначка замуж. Прыгожаю яна стала дзяўчынаю, і высватаў яе добры воін, асілак Віцень.

Добра жылі маладыя, але аднойчы, калі крыжацкае войска напала на крыўскія землі, пайшоў на вайну Віцень — і згінуў. Казалі ягоныя сябры, што, мабыць, загінуў ён, робячы засаду, ды толькі не маглі знайсці асілка ні між жывымі, ні між мёртвымі.

А яшчэ казалі ўсякае, толькі ведала Ганначка, што не загінуў Віцень, таму што бранзалет на яе руцэ счарнеў, але чырвонага водбліску не было на ім. Хутчэй за ўсё, трымалі яго ў палоне.

І праўда — праз паўгода атрымала вестку, што патрабуюць крыжакі за мужа вялікі выкуп. Але дзе ўзяць грошы? Даўно памерлі яе бацькі, жылі яны з Віценем удваіх, а без яго гаспадарка заняпала...

Успомніла яна тады пра Бялбога і яго багацці. Можа, дапамог бы ён выкупіць мужа з палону? Доўга вагалася маладая жанчына, але рашылася. Выйшла ў чыстае поле, зняла з рукі сярэбраны бранзалет (другі ў мужа застаўся), апусціла яго на сцяжынку:

— Вядзі мяне да дзеда Белуна!

Пакаціўся бранзалет, ды так хутка — Ганна ледзь-ледзь за ім паспявала. Праз цёмны лес, праз сонечныя палянкі каціліся і каціліся сярэбранае колца, ажно ўзмалілася маладая жанчына: «Не спяшайся, бранзалет, а то ў мяне ногі падгінаюцца!» Як паслухаўся той — цішэй пакаціўся. Думала Ганна, што зноў убачыць глыбокую яміну, толькі не — падкаціўся бранзалет да вялізнага валуна, што пад гарой ляжаў, і тут жа валун сам сабой убок адкаціўся. Тады зноў убачыла маладзіца знаёмую хаціну, і зноў дзед Бялун да яе выйшаў. Зусім не змяніўся ён за гэтыя гады — такі ж белабароды, у такой жа кашулі, з той жа добрай усмешкай на твары.

Расказала Ганна пра сваю бяду. Выслухаў яе гаспадар, уздыхнуў:

— Зямля такая прыгожая, а людзі на ёй жывуць па-вар'яцку: адзін аднаго забіваюць, рабуюць, кіпяць нянавісцю. Цяжка тваёй зямлі будзе, доўга ёй несці чужаземны цяжар... Але я дапамагу табе. Ідзі сабе спакойна дадому.

Пачаставаў ён сваю госцю салодкім мёдам, і стомленасці як не было, назад ішла, як ляцела. Нават на бранзалет свой забылася, спахапілася, калі прыйшла на раздарожжа. Зірнула — а ён тут як тут: перагнаў яе і спакойна пакаціўся наперад, ажно да самага парога роднай хаты.

Мінуў тыдзень, другі, а ад мужа няма ніякіх вестак. Нават засумнявалася маладзіца: ці не забыўся на сваё абяцанне дзед Бялун? Ды зірне на свой бранзалет — а ён усё святлее і святлее. Значыць, паляпшаецца жыццё Віценя — але дзе ж ён сам?

І вось аднойчы, калі яна сядзела за кроснамі, пастукаўся муж у дзверы, вярнуўся з крыжацкага палону. Расказаў ён, як прыходзіў яго выкупляць стары дзядок. Крыжакі спачатку задумалі ўзяць выкуп, а палонніка не выпускаць. Толькі як пасмяяўся галоўны магістр з дзядка і сказаў, што не адпусцяць крывіча з палону, так адразу адняліся ў яго рукі і ногі. І так было да таго часу, пакуль не выканалі сваё абяцанне...

Доўга і шчасліва жылі Віцень і Ганна, такімі ж шчаслівымі былі іх нашчадкі. Бранзалеты дзеда Белуна засталіся дзецям, пасля ўнукам, праўнукам... Кажуць, і дасюль носяць іх нашчадкі, толькі таемна, каб ніхто не мог даведацца аб чароўнай сіле тых бранзалетаў.



## *«Паміж Масквой і Варшавай» (Нататкі аб гістарычных месцах Беларусі).*

Кніга «Паміж Масквой і Варшавай» Вольгі Іпатавай сцісла падае амаль невядомыя старонкі багатай і цікавай гісторыі беларусаў, культуру палацаў і замкаў, непарыўную сувязь Беларусі з еўрапейскім Рэнесансам, арыгінальную, не падобную да іншых славянскіх народаў этнаграфію, легенды і паданні. З яе старонак паўстаюць каралі і асветнікі, воіны і святыя, міфічныя асілкі і прыгажуні.

Кніга выдаецца на беларускай і англійскай мовах. Ілюстравана самабытнымі мастакамі Л. і В. Варэцамі. Разлічана на шырокае кола чытачоў і турыстаў, якія цікавяцца гісторыяй Беларусі.

Мае памер 12 друкаваных аркушаў.

Заяўкі падаваць на адрас «Белуна».

Для тых, хто жадае стаць спонсарам выдання, паведамляем разліковы рахунак: № 6467712 у АКБ «Беларусь», Мінскі філіял № 6 МФО 153001809.

Валютны рахунак № 00607109.







**БЯЛУН** — міфалагічны персанаж беларусаў, які ўвасабляе ідэю светлага пачатку жыцця, ён жа — Бялбог, які заўсёды перамагае Чарнабога.

**«БЯЛУН» — ГЭТА ТАВАРЫСТВА З АБМЕЖАВАНАЙ АДКАЗНАСЦЮ, СТВОРАНАЕ, КАБ ПРАПАГАНДАВАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ГІСТОРЫЮ І КУЛЬТУРУ.**

Мы гатовы супрацоўнічаць з усімі дзяржаўнымі і камерцыйнымі структурамі, культурнымі ўстановамі, клубамі і г.д. Пры «Белуне» створаны такія структуры, як мастацкая галерэя «Леда», міжнародны клуб падтрымкі таленавітых творцаў «Мецэнат», вытворча-камерцыйны цэнтр «Айсберг».

Акадэмічныя тэатры і сельскія клубы, мастацкія галерэі і кніжныя крамы, акцёры і музыканты — словам, усе, хто жадае, выходзьце на кантакты з намі.

Камерцыйныя прапановы просім накіроўваць на адрас газеты «Культура»:

220050, Мінск,
вул. Кірава, 25 — 12,
тэлефон: 27-83-18

## ТВОРЧАЯ КУХНЯ

# ЯК ПЕРАВЯРНУЦЬ СУСВЕТ?

ЯК ПЕРАВЯРНУЦЬ СУСВЕТ?

*Ігар Кашкурэвіч скончыў тэатральна-мастацкі інстытут у 1982 годзе. Працуе ў галіне станковай графікі, жывапісу, перформансу, інсталяцыі і разьбы. Ягоныя творы знаходзяцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі, Дырэкцыі мастацкіх выставаў Саюза мастакоў Беларусі, а таксама ў прыватных зборах Менска, Вільні, Стакгольма, Берліна. Браў удзел у шматлікіх выставах у краінах СНД і Заходняй Еўропы.*

*Кашкурэвіч быў адным з аўтараў серыі выстаў перформансаў, якія пераклікаліся з традыцыяй супрэматызму: «Казімір Малевіч — 110» (1988, Віцебск), «Ажыўленне Казіміра» (1988, Менск), «Супрэматычнае ўваскрашэнне Казіміра» (1990, Масква).*

*Мы размаўляем з Ігарам за кубкам гарбаты ва ўтульнай майстэрні ў Верхнім горадзе.*

**— Ігар, твой бацька — вядомы мастак, які прытрымліваецца галоўным чынам наратыўнага мастацтва. Ці паўплывала гэта як-небудзь на твой выбар паміж авангардам і тым мастацтвам, якое хоча што-небудзь сцвердзіць, давесці, прадэманстраваць? Згодна Фрэйду, мастак мусіць паўстаць супраць бацькоўскага аўтарытэту.**

— Вядома, кожны чалавек павінен шукаць свае шляхі ў жыцці. Я не хацеў проста адрозніваца ад бацькі ці якога іншага мастака. У свой час мяне захапілі пэўныя ідэі, і я нават не ведаю чаму. Мастацтва, як, дарэчы, і самое жыццё, — працэс напалову ірацыянальны. Я праваслаўны, як бацька. Хрысцілі мяне ў несвядомым узросце — лічы, у бессвядомым стане. Мне здаецца, гэтая вера прысутнічае нейкім незразумелым чынам і ў маіх карцінах. Беларускі экспрэсіянізм, да якога спрычыніўся бацька, магчыма, застаецца актуальным для палітычнага ці маральнага стану грамадства, але сусветны эстэтычны працэс рушыў значна далей. Дарэчы, Фондам культуры запланавана ўвосень ў Мастацкім музеі выстава «Familia». Там будуць сабраны творы бацькавы, мае і майго брата Хведара.

**— Да якой плыні авангарду ты далучаеш сябе?**

— Я доўгі час працаваў у розных галінах мастацтва, каб адшукаць нешта сваё. Найбольш актуальны для мяне зараз абстрактны жывапіс. Ягоныя вытокі — у творах Малевіча, Кандзінскага, Мандрыяна. Я ўжываю механістычную тэхніку: пішу не пэндзлем, а гумовым валікам. Магчыма, таму мой жывапіс супрацьлеглы гістарычнаму: ён геаметрычны. Мае творы — спроба выйсці ў пазагістарычную, нават пазачасовую рэчаіснасць. Я адчуваю стварэнне карціны, як эстэтычны рух часу, які працягваецца ўва мне, нават калі праца скончаная ці яшчэ не пачыналася. Сама ж карціна ўвасабляе эстэтычны рух прасторы. Карціна не мае ўласнага часу, бо ён належыць, я лічу, мастаку. Я шукаю такога стану палатна, які будзе станам закончаным, гэта значыць — станам пазачасовым. Дарэчы, сапраўдная музыка нагадвае мне абстрактны жывапіс, які, аднак, ствараецца не ў прасторы, а па-за прасторай, у часе.

**— Твая эстэтыка блізкая да эстэтыкі Малевіча?**

— Так, сучаснае мастацтва немагчыма без звароту да творчасці папярэднікаў, без пераасэнсавання й аднаўлення дасягненняў культуры мінулых стагоддзяў. У эстэтыцы постмадэрну ўдалае цытаванне агульнавядомага майстра лічыцца нават больш каштоўным за пошук чагосьці новага. Шляхі да будучыні мастацтва (прынамсі, шмат якія з іх) палягаюць праз ягонае мінулае.

**— Наколькі я разумею, авангарднае мастацтва не адлюстроўвае, а стварае свет нанова. Ці не спрабавалі ў свой час бальшавікі зрабіць нешта падобнае: «Мы наш, мы новы свет збудуем!» — толькі матэрыялам бралі не фарбы, а жывых людзей?**

— Я лічу, нельга атаясамліваць мастацкі й літаратурны авангард з якімі-кольвек палітычнымі рухамі. Палітычная дзейнасць можа быць працягам эстэтычнай дзейнасці мастака, але ніколі — яе зместам. Бальшавікі выкарыстоўвалі мастацтва Маякоўскага, італьянскія фашысты — футурыстаў толькі таму, што ўсялякі рэжым мае патрэбу ў стварэнні ўласнай эстэтыкі ды й проста ў аздобе.



**— Магчыма, разам з Маякоўскім загінула ўсё сапраўднае, што было ў сацыялістычнай рэвалюцыі, засталося адно толькі «мёртвае цела ўлады»?**

— Ты ведаеш, у 30-я гады авангардная думка тут вынішчалася фізічна, а на Захадзе ў тыя ж часы лічылася, што авангард — «камуністычная зараза», бо ствараўся ён, сапраўды, у апазіцыі да буржуазнага ладу мыслення й мастацтва. Дарэчы, на Усходзе і зараз мастацтва — тое, на што абапіраецца дзяржаўная (ці апазіцыйная) ідэалогія, тым часам як на Захадзе яно сталася прасторай, дзе дазволена ўсё.

**— Ігар, калі мастаку «дыхалася» лягчэй: да перабудовы ці пасля яе?**

— Складанае пытанне. Усё залежыць ад самасвядомасці, ад асабістай міфалогіі мастака. Ствараць было лягчэй тады, калі ніхто не думаў пра вялікія грошы. Але, з іншага боку, шмат хто не бачыў для сябе ніякай перспектывы ў тыя часы. Культура была нібыта ў нейкай хранічнай хваробе: усё навокал неяк спусташалася, губляла сэнс. Паўсюдна былі пустыя словы, пустыя вочы, пустая культура. Зараз у мяне ўжо няма той разгубленасці, зараз галоўнае для мастака — не згубіць душу ў пагоні за доларам.

**— Дзе тваё мастацтва лепш разумеюць — тут ці за мяжой? Увогуле, ці натуральна выглядае авангард на славянскай (перадусім — беларускай) культурніцкай глебе?**

— Маё мастацтва больш разумеюць тыя, хто блізкі мне інтэлектуальна, а не геаграфічна. Я шмат дзе бываю з выставамі й магу параўноўваць: развіццё авангарднай думкі ішло паралельна на захадзе й усходзе Еўропы. Славянская ментальнасць не болей супярэчыць авангарду, чым, напрыклад, шведская ці нямецкая. Аднак сітуацыя ў мастацтве ў нас, вядома, зусім іншая. Мастакоў у Менску й Беларусі вельмі многа цікавых, бо амаль кожны працаваў у нейкай замкнёнай прасторы. Я бачыў рэчы, зробленыя на вельмі высокім узроўні, якім няма аналагаў на Захадзе. Там у мастакоў, наадварот, зашмат самай рознай інфармацыі адзін пра аднаго, і патрэбна шмат сродкаў і псіхічнай энергіі, каб стварыць нешта непадобнае да іншых, знайсці нейкі свой шлях. Мы на Беларусі маем шмат такога, што магло б здзівіць заходніх калегаў, але ведаюць пра нас у Еўропе вельмі няшмат. Ніхто не ўдзельнічае ні ў Венецыянскім біенале, ані ў Берлінскім фестывалі мастацтваў.

**— Ты нават браў удзел у такой выставе: «Невядомая Еўропа».**

— Так, у Кракаве, у 1991 годзе. Там былі мастакі з Латвіі, Эстоніі, Расіі й амаль з усіх краін Еўропы. Там, у Польшчы, магчымыя акцыі еўрапейскага маштабу, там вельмі многа мастацкіх цэнтраў. Шмат палякаў у Міжнароднай асацыяцыі крытыкаў і мастацтвазнаўцаў — дарэчы, з Беларусі ў ёй няма ніводнага чалавека.

**— Ці не таму нас блага ведаюць у свеце?**

— Магчыма, і так. У нас вельмі інертная сітуацыя ў мастацкай крытыцы. Для мастакоў выдаецца, лічы, адзіны часопіс — дый тое робіць экскурсы ў гісторыю, тлумачыць, чым ёсць мастацтва. А сучаснай мастацтвазнаўчай думкі ў ім не знойдзеш. У той жа Польшчы адным мастаком могуць займацца й пяць крытыкаў, а ў нас ім ніхто не цікавіцца.

**— У нас мастакоў болей, чым мастацтвазнаўцаў?**

— Менавіта такое ўражанне. Нашыя крытыкі не ўдзельнічаюць у сусветнай думцы, не ведаюць, што робіцца ў свеце, увесь час адно ўпарта сцвярджаюць нейкую сваю думку й сябе саміх. Так мы ўвесь час будзем ехаць на драбінах. Міністэрства культуры таксама не займаецца інфармацыяй. Я абураны, як прынялі Лявона Тарасэвіча. Мастак з еўрапейскім імем мусіў быў сам збіраць па калекцыях свае творы, везці іх у Менск і яшчэ тут працаваць як парабак. Працы вялікія, для іх трэба было збудаваць адмысловыя стэнды. Зрабілі за два дні, змарнавалі шмат грошай. Лявон нават пераапрануцца да прэс-канферэнцыі не паспеў. Выстава магла не атрымацца ўвогуле, і нікога гэта не турбуе. Мне было сорамна: мяне прымалі ў Польшчы інакш. Калі мастак з Беларусі прыязджае ў Польшчу, Тарасэвіч робіць усё, каб дапамагчы з выставай, і ён першы мае права на ветлы прыём тут.

**— Гадоў 20 — 30 таму на Захадзе шмат хто казаў, што «мастацтва сканала». Нешта падобнае зараз кажуць у нас. Ці сапраўды яно там «сканала», а калі не — то дзякуй чаму?**

— На маю думку, рэчаіснасць мастацтва падобная на рэчаіснасць сусвету. Яно ўвесь час перажывае ўласную смерць, за якой пачынаецца ўваскрашэнне й новае жыццё. Мы бачым, як сонца кожнай раніцай паўстае і ўвечары памірае, каб заўтра ізноў з'явіцца на небе. Мастацтва таксама мусіць паміраць, рабіць паніхіды па сабе, каб потым уваскрэснуць наноў. Я лічу, мастакоўскі песімізм на Захадзе — гульня. Там чалавек шмат дзе сутыкаецца з жывым мастацтвам. Напрыклад, ствараюцца адмысловыя паркі, куды на ўік-эндах прыходзяць мастакі й гледачы з дзецьмі, каб пагуляць з творамі кінетычнага мастацтва, паглядзець выставу на пленэры ці нечакана стацца




ўдзельнікамі якога-небудзь хэпенінгу. Увогуле авангарднае мастацтва нараджаецца й жыве бліжэй да чалавека, чым мастацтва класічнае. Ты ведаеш, на Захадзе жыццё зарганізавана вельмі рацыянальна, авангард жа вельмі прыдатны для псіхалагічнай разгрузкі гледачоў. Драматычную сітуацыю ў мастацтве я бачу не на Захадзе, а менавіта тут, у нас. Чаму? Таму што там чалавек шукае, што ён можа зрабіць для грамадства, а тут ён шукае, як пазбегнуць таго, каб нешта стварыць.

**— Ігар, ці дапамагае табе беларускасць быць авангардыстам? Іншыя лічаць, авангард заўсёды касмапалітычны. Ці патрэбны табе пэўны грунт пад нагамі, каб ствараць новае неба?**

— Беларусь уяўляецца мне нейкай маргінальнай прасторай. У ёй самой адчуваецца нешта касмапалітычнае: тут палягае шмат перакросных шляхоў, захаваліся адбіткі самых розных культур. Варта глянуць на Менск: мне здаецца, ён стварaўся па той сістэме, па якой ствараецца мастацтва абсурду, гэта нават не эклектыка. Дарэчы, і авангард мае свае вытокі ў Абсурдзе. Выразны твор абсурду — Палац Рэспублікі. На тым месцы раней была вялізная статуя Сталіна. Кажуць, палац падобны да пастаменту, і цяжка нават уявіць, якіх памераў мусіць быць статуя якога-небудзь новага правадыра. Ці возьмем дамок ля будынка Купалаўскага тэатра. Яго нехта будаваў пад жытло, але, можа, не хапіла грошай ці яшчэ чаго — і той дамок стаў прыбіральняй. Я ведаю мастакоў, якія хацелі б зняць яго ў арэнду й ладзіць там авангардныя выставы. Я нарадзіўся у Менску, але напрыканцы 70-х гадоў выехаў у вёску: там лягчэй адчуць сябе суцэльнай асобай, што вельмі патрэбна для мастака.

У мяне з дзяцінства некалькі моваў. Беларуская перадусім датычылася мастацтва й увогуле культуры. Я б нават пазначыў яе як рытуальную. У паўсядзённым побыце, тым больш у рэчаіснасці Менска, я не заўсёды пакуль што карыстаюся ёю. Мову нельга ўвесці ў жыццё адвольна, нібы шпрыцам у мозг. Мусяць наперад змяніцца варункі жыцця, каб сакральнае ўвасобілася ў паўсядзённым.

А наконт грунту пад нагамі скажу словамі знаёмага мастака: «Як пераварнуць сусвет? Трэба ўвагнаць вертыкальна даўжэзны кол у зямлю, прымацаваць побач зэдлік, стаць на яго абедзвюма нагамі, сабраць усю сваю сілу, ухапіцца за гэты кол і падняць гэтую зямлю як мага вышэй!»

Размову вёў Юрась БАРЫСЕВІЧ.

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК),
вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11000
Замова 26

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

